Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4875) 17 чэрвеня 2016 г.



**Алесь БАДАК**

## ГОЛАС

(Памяці Уладзіміра Мулявіна)

*Голад*
*На сцэне эстраднай*
*На голас.*
*Ішлі на яго ў нас*
*І вёска, і горад.*
*Ішлі Беларусь,*
*Украіна, Расія,*
*Нібыта на сцэну*
*ўзыходзіў месія.*
*Гучала, як пропаведзь,*
*свету стамлёнаму:*
*«А ў полі вярба*
*нахілёная…»*
*І слухалі голас,*
*як шчырыя вернікі*
*Адзінае веры*
*Еўропа з Амерыкай.*
*Не спыніш гісторыі*
*шпаркае кола.*
*Няхай на эстрадзе*
*паўсюль цяпер гола*
*Ад плётак газетных,*
*кароткіх спаднічак, —*
*Успомнім і гэта пасля*
*настальгічна!*
*Ды гола яшчэ ўсё*
*без гэтага голасу,*
*Як без васілька*
*прыдарожнаму коласу.*
*І не рарытэт ужо*
*дома — рэліквія*
*Мулявінскі голас*
*з пласцінкі і лік яго.*
*І дыск заядае,*
*гадамі зайграны*
*На словах: «Ой рана…*
*ой рана… ой рана…»*


Фота БелТА.

*Галіна Грамовіч і Міхаіл Фінберг падчас канцэрта.*

# За Песняром

**Спявалі. Казалі. Прамаўлялі. Па-беларуску: Нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне мае свой кірунак, сваю задачу, якая была вызначана яшчэ ў 1993 годзе. Усё дзеля таго, каб сталі падпяваць, каб паўтарылі, захацелі чытаць і ўрэшце пачалі гаварыць пра сябе самі. Усплёск энергіі і эмоцый нарадзіў дзіўную творчую з'яву ў выглядзе фестывалю (менавіта так здавалася), за якой бачылася будучыня: калі ёсць краіна, то тэма нацыянальнай культуры можа быць тым самым грунтам і паветрам, якое яе сілкуе.**

У тыя часы гучала на ўвесь голас: «Я буду маліцца і сэрцам і думамі…»

І гэта быў голас Уладзіміра Мулявіна. Колькі б ні гучала гэтая песня (і дзе б ні выконвалася), яе немагчыма было слухаць, адключыўшы свядомасць: магутны энергетычны ўсплёск прымушаў узняцца ў малітоўным звароце і вымаўляць тыя ж словы — разам. Тады гэта было вельмі актуальна.

Надзвычай актуальна і цяпер менавіта таму, што ёсць краіна, якую хочацца захаваць. Але далёка не кожнае слова і не за кожным выканаўцам будзеш вось так жа паўтараць. Таму сёлета ў Маладзечне знакамітая, глыбокая і прыгожая песняроўская «Малітва» (створаная кампазітарам Алегам Моўчанам) гучала ў выкананні… самога Уладзіміра Мулявіна. Яго голас гучаў у канцэрце-прысвячэнні. З яго інтанацыяй — рашучай і пераканаўчай. З яго шчырай верай у «родны народ Беларусі». Слухалі задумліва, не толькі таму, што сёлета юбілей народнага артыста Беларусі і СССР Уладзіміра Мулявіна, а яшчэ і з-за таго, што гэта тая асоба, праз якую хочацца мераць вартасць музычнай (і эстраднай) творчасці: калі яна — проста забава, а калі за ёю ідзе думка і сэнс. Калі артыст — проста спявак, а калі ён асоба і Пясняр, які здольны падымаць залу, злучаць людзей у адно цэлае, і знікаюць любыя непаразуменні, таму што ГЭТА ўсе адчуваюць аднолькава. Такія думкі ўзнікалі падчас канцэртаў і імпрэз фестывалю.

Працяг на стар. 4 — 5

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў газеты «Рэспубліка» з 25-годдзем з дня выхаду першага нумара. «За чвэрць стагоддзя вашаму выданню ўдалося заняць дастойнае месца ў інфармацыйнай прасторы краіны і заваяваць папулярнасць сярод чытачоў розных узростаў і прафесій», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ўласцівы калектыву газеты прафесіяналізм і пастаянны журналісцкі пошук з'яўляюцца залогам далейшай плённай работы.

✔ Старт імпрэз, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, будзе дадзены на свяце «Купалле» («Александрыя збірае сяброў») у аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна. Пра гэта журналістам паведаміла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Павільён «Друкарскі двор XVI стагоддзя» стане адмысловай інтэрактыўнай пляцоўкай, якая яшчэ раз нагадае пра вялікую культурную спадчыну Беларусі. На творчай пляцоўцы «Друкарскага двара» будуць прадстаўлены кнігі класікаў беларускай літаратуры — гонар нацыянальнага кнігавыдавецтва, а таксама кнігі сучасных пісьменнікаў.

✔ Беларускае тэлеграфнае агенцтва запусціла на сваім сайце спецыяльны праект, прысвечаны V Усебеларускаму народнаму сходу. Спецпраект складаецца з некалькіх раздзелаў, у якіх публікуюцца афіцыйныя дакументы і навіны, спісы дэлегатаў і інтэрв'ю з імі, інфаграфіка, фота- і відэаматэрыялы. На сайце прадстаўлены раздзел, які дэманструе шырокаму колу чытачоў інфармацыю і гістарычныя фотаздымкі сходаў, што праводзіліся раней. Плануецца арганізацыя трансляцыі пасяджэнняў форуму.

✔ Дні культуры Беларусі пройдуць у Расіі з 19 па 22 чэрвеня, паведамілі ў Міністэрстве культуры. У праграме — выступленне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі з балетам «Вітаўт» на музыку Вячаслава Кузняцова на гістарычнай сцэне Вялікага тэатра Расіі, а таксама экспанаванне фотавыстаўкі Беларускага тэлеграфнага агенцтва.

✔ Прэтэндэнтаў на ўдзел у дзіцячым «Еўрабачанні-2016» праслухаюць 27 чэрвеня. Журы вызначыць ад сямі да дзесяці канкурсантаў для ўдзелу ў фінале, які будзе праведзены не пазней за 16 верасня ў форме гала-канцэрта ў прамым эфіры тэлеканалаў «Беларусь 1» і «Беларусь 24».

✔ Падчас «Славянскага базару ў Віцебску» на вуліцах горада і яго адкрытых пляцоўках пройдзе шмат бясплатных мерапрыемстваў — фестываль становіцца ўсё больш даступным для шырокага кола гледачоў. Сёлета адзін з такіх унікальных праектаў — святочнае шэсце артыстаў і музыкантаў, спевакоў і танцораў, якое завершыцца цырымоніяй уздыму фестывальнага сцяга каля Летняга амфітэатра.

✔ У Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка «*France 20…XVI*», прысвечаная гісторыі і культуры Францыі. У выставачнай зале музея рэканструююць інтэр'ер кватэры Парыжа 60 — 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Усяго ж у экспазіцыі прадставяць больш за 130 прадметаў, сярод якіх эксклюзіўныя творы мастацтва, зброя, грошы. Большасць экспанатаў былі затрыманы на граніцы і перададзены на захоўванне ў фонды музея Брэсцкай мытняй. Азнаёміцца з выстаўкай можна на працягу ўсяго лета.

# Слова — дэлегатам

Цягам двух дзён — 22 і 23 чэрвеня — у сталіцы будзе праходзіць V Усебеларускі народны сход. Плануецца абмеркаваць вынікі рэалізацыі Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011 — 2015 гады і асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016 — 2020 гады. Мяркуецца, што ў сходзе возьмуць удзел 2,5 тысячы дэлегатаў, сярод якіх і прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Чаго ж яны чакаюць ад форуму?

**Мікалай Чаргінец, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Чакаю, што падчас сходу будуць разгледжаны найважнейшыя пытанні жыццядзейнасці Беларусі, у першую чаргу — эканамічнага характару. У гэтай сферы патрабуецца прыняцце дадатковых мер з боку кіраўніцтва краіны. Разглядаючы план сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы на найбліжэйшыя пяць гадоў, дэлегаты змогуць унесці свае прапановы. Для нас, пісьменнікаў, гэта вельмі важна, бо творцу далёка не ўсё роўна, як і ў якіх умовах жыве чалавек. Таму вельмі добра, што сярод дэлегатаў сходу — цэлы шэраг членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Лічу, што V Усебеларускі народны сход — гэта яшчэ і новы стымул развіцця пісьменніцкай творчасці ў нашай краіне.

**Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Мяркую, што на сходзе будзе вырашана шмат надзённых пытанняў, якія датычаць культуры, мовы, літаратуры, мастацтва. Вельмі хацелася б, каб наступны год у нашай краіне быў абвешчаны Годам роднай мовы, бо сёння пытанні яе ўжытку, развіцця, папулярызацыі актуальныя як ніколі. На жаль, у сучасным грамадстве назіраецца тэндэнцыя зніжэння цікавасці да роднай мовы. Аднак калі ў нас будзе добрая літаратура, то і песенная творчасць, і тэатральнае мастацтва будуць на высокім узроўні. Дарэчы, варта надаваць больш увагі яшчэ і творчасці маладых літаратараў. Гэта тыя пытанні, якія складаюць аснову духоўнасці. Што да Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на наступныя пяць гадоў, то думаецца, што дзякуючы ёй наша краіна стане яшчэ больш прэстыжнай у свеце, а ад узроўню развіцця краіны залежыць і мова, і культура.

**Яна ЯВІЧ**

# Радасная вестка

### «Зоркі Садружнасці» сабраліся на сцэне Вялікага тэатра ў Мінску

У камернай зале Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння галоўнай гуманітарнай прэміі СНД «Зоркі Садружнасці». Яна прысуджаецца за найбольш значныя поспехі ў сферы гуманітарнай дзейнасці, якія адпавядаюць узроўню сусветных дасягненняў і спрыяюць як асобнаму развіццю кожнай з краін — удзельніц СНД, так і развіццю садружнасці ў цэлым. Сёлета ўпершыню за сем гадоў існавання прэміі ўрачыстая цырымонія ўзнагароджвання праводзілася не ў Расіі.

Вітаючы гасцей падчас адкрыцця ўрачыстай цырымоніі, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч адзначыла, што галоўная гуманітарная прэмія СНД «Зоркі Садружнасці» — своеасаблівая творчая нітка, якая не толькі звязвае краіны, што ўваходзяць у Садружнасць, але і падсілкоўвае літаратуру, культуру, медыцыну і іншыя сферы дзяржаўнага апарата.

На цырымоніі ўзнагароджання старшыня праўлення Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджана ў Расіі Палад Бюльбюль аглы падзякаваў Беларусі за арганізацыю цырымоніі ў Вялікім тэатры і падкрэсліў, што ў сённяшнім неспакойным свеце ўручэнне гуманітарнай прэміі — радасная вестка, якая грэе душу. На думку дыпламата, менавіта дзякуючы выбітным дзеячам, што працуюць у розных напрамках, постсавецкія дзяржавы з поспехам захоўваюць гуманітарныя сувязі ў інтэграцыйным аб'яднанні.

Сёлета лаўрэатамі прэміі сталі дзесяць выдатных дзеячаў краін СНД. Гэта беларускія біёлагі Уладзімір Рашэтнікаў, Уладзімір Ціток і Алена Спірыдовіч, народны артыст СССР Фархад Шамсі аглы Бадалбейлі з Азербайджана, армянскі вучоны-фізік Сяргей Амбарцумян, генеральны дырэктар Нацыянальнай акадэмічнай бібліятэкі Казахстана Умуткан Муналбаева, народны артыст Кыргызстана Муратбек Бегаліеў, народны пісьменнік Малдовы Іон Друцэ, народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Малога тэатра Расіі Юрый Саломін і народны мастак Таджыкістана Вафо Назараў. Дарэчы, калектыў біёлагаў батанічнага саду ў Мінску адзначаны гуманітарнай прэміяй за закладку алей калекцыйнага бэзу.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Балтыйскі вектар

### Латвія і Беларусь пашыраюць партнёрства ў культурнай сферы

Плануецца ўмацаваць кантакты паміж музычнымі і тэатральнымі ўстановамі, канцэртнымі арганізацыямі, актывізаваць абмен спецыялістамі ў галіне бібліятэчнай і музейнай спраў. У найбліжэйшы час магчыма рэалізацыя сумесных оперных і балетных праектаў, узаемадзеянне салістаў, рэжысёраў і харэографаў.

Міністр культуры Латвійскай Рэспублікі Дацэ Мелбардэ наведаў 10 чэрвеня Нацыянальную бібліятэку Беларусі з мэтай падпісання Праграмы супрацоўніцтва паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры Латвійскай Рэспублікі. У цырымоніі ўзяў удзел міністр культуры нашай краіны Барыс Святлоў. Пагадненне будзе дзейнічаць да 2018 года.

Што яшчэ мае на ўвазе дакумент? Абмен выстаўкамі выяўленчага мастацтва, пашырэнне практыкі сумеснага ўдзелу ў фестывалях, конкурсах і форумах, у тым ліку дзіцячых і юнацкіх. Да гэтага падключацца музычныя і мастацкія школы дзвюх краін.

На новую прыступку выйдуць творчыя сувязі паміж Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь і Ліепайскім сімфанічным аркестрам. Чакаюцца абменныя гастролі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Латвійскага нацыянальнага тэатра і Рыжскага рускага тэатра імя Міхаіла Чэхава.

Што да кінематографіі, то і тут мноства планаў. Латвійскі бок абяцае садзейнічаць удзелу беларускіх фільмаў у Міжнародным кінафестывалі «2 Annas» і Форуме дакументальных фільмаў краін Балтыйскага мора. Міністэрствы таксама не абышлі ўвагай неабходнасць пашырэння сувязей у межах аховы гісторыка-культурнай спадчыны і народна-прыкладной творчасці.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Лыжка як рэкорд

### Самая вялікая драўляная лыжка ў свеце з'явілася ў горадзе Беразіно



Майстры Яўген Осіпаў, Улад Макавецкі і Аляксандр Паскробка замахнуліся на рэкорд. Дагэтуль належаў Румыніі: максімальная даўжыня вырабу складала 17,8 метра. Беларускі варыянт не толькі амаль на 5 метраў больш, але і выгляд мае надзвычай прывабны. Лыжка адметнай формы Цмока-прыгажуна, знакамітага міфічнага персанажа беларускіх народных паданняў. Каб зафіксаваць рэкорд сярод краін СНД і Балтыі, а потым і ва ўсім свеце, напрацоўваюцца матэрыялы.

Шэдэўр рамеснага натхнення невыпадкова з'явіўся менавіта ў Бярэзінскім раёне. Тут разьба па дрэве — добрая традыцыя і адзін з асноўных напрамкаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Кожныя два-тры гады майстры з усіх рэгіёнаў Мінскай вобласці збіраюцца на абласным святе-конкурсе «Бярэзінскія лыжкары». Амаль шэсць гадоў таму адкрыўся нават цэлы пакой-музей драўлянай лыжкі, дзе сабрана зараз каля 300 экспанатаў, кожны з унікальнай гісторыяй. На Бярэзіншчыне ёсць таксама помнік лыжцы ў два з паловай метра!

Прэзентацыя рэкорднага вырабу прайшла ў межах XV абласнога свята-конкурсу майстроў драўлянай манументальнай скульптуры «Сонечная цеплыня дрэва». Ініцыятарам выступілі Бярэзінскі раённы цэнтр рамёстваў і Народны клуб майстроў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Легендарны голас

**На камернай сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы 14 чэрвеня адбыўся творчы вечар, прысвечаны 90-гадоваму юбілею знакамітага дыктара беларускага радыё Ільі Кургана. Павіншаваць яго прыйшлі блізкія сябры, калегі «па цэху», вучні і людзі, якія памятаюць легендарны голас. Госці вечара дзяліліся ўспамінамі пра сумесную працу, пра агульныя праекты і прэзентавалі юбіляру памятныя творчыя падарункі.**



*Фота з сайта tut.by.*

Ілья Курган — мэтр радыйнай справы, які на працягу амаль паўстагоддзя прыгожым голасам будзіў усю краіну словамі «Гаворыць Мінск». На беларускае радыё ён прыйшоў працаваць у 1949 годзе. Тады толькі скончыў Мінскі тэатральны інстытут і на пасаду дыктара быў прыняты, абышоўшы больш як сто канкурэнтаў. У той жа час змяніў прозвішча Эйдэльман на больш гучнае Курган (прозвішча па матчынай лініі). Дыктар часцей за ўсё працаваў у прамым эфіры, любіў імправізаваць, пазбягаючы зацверджанага рэдактарамі тэксту. Досвед работы на радыё дапамог і на іншых месцах працы. Шмат год Ілья Львовіч выкладаў мастацтва сцэнічнай мовы і вучыў інтанацыйнай артыкуляцыі будучых акцёраў і рэжысёраў у Акадэміі мастацтваў і ўніверсітэце культуры. Быў літаратурным кансультантам у Купалаўскім тэатры.

Сёння Ілья Курган больш не ходзіць працаваць на Чырвоную, 4, але для ўсіх па-ранейшаму застаецца сімвалам і легендай беларускага радыё.

**Вікторыя АСКЕРА**

## У пісьменніцкім асяродку

# Радкамі вершаў і паэм

Талент Канстанціна Вераніцына, які 15 красавіка 1855 г. завяршыў у г. Гарадку паэму «Тарас на Парнасе», вядомы і ў нашы дні. На яго радзіме, Гарадоччыне, ужо ў восьмы раз прайшло раённае свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору «Гарадоцкі Парнас». Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла наша чытачка Святлана Якаўлева.

Мясцовыя жыхары і ганаровыя госці свята, у тым ліку старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамара Краснова-Гусачэнка, літаратары Уладзімір Крайнеў, Канстанцін Нілаў, Уладзімір Папковіч, Наталля Саветная, Аляксандр Лісняк, аддалі даніну павагі славутаму земляку ля скульптурнай кампазіцыі «Тарас на Парнасе». Да помніка ўсклалі жывыя кветкі.

«Сцежкамі Тараса» па маршруце Гарадок — Астраўляны — Гарадок, па авеяных легендамі дарогах, якімі хадзіў і Канстанцін Вераніцын, рушылі 40 удзельнікаў велапрабегу, арганізаванага раённым аб'яднаннем прафсаюзаў. У межах свята праходзіў V раённы адкрыты конкурс тэматычных вырабаў народных майстроў і мастакоў «Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса?»

Традыцыйную акцыю «Чытаем паэму разам» сёлета падтрымалі настаўнікі і вучні школ Гарадоччыны. Радкі паэмы ўжо другое стагоддзе з вуснаў у вусны перадаюцца многімі пакаленнямі беларусаў і па-ранейшаму ўражваюць трапнасцю мовы і сакавітымі вобразамі.

***

Арганізатарамі «круглага стала», прысвечанага сучаснай маладой паэзіі, што прайшоў у Цэнтральным доме афіцэраў, выступілі Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, Студыя ваенных пісьменнікаў і Цэнтральная бібліятэка ЦДА. У размове за «круглым сталом» ўзялі ўдзел літаратары, работнікі бібліятэк і курсанты Ваеннай акадэміі да ваенных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў сталіцы.

Вёў «круглы стол» пісьменнік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, які выступіў з паведамленнем аб працы рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі, яе сталічнага і абласных аддзяленняў з юнымі літаратарамі краіны. Распавёў пра творчыя конкурсы сярод старшакласнікаў, студэнтаў і моладзі. Міхась Пазнякоў узгадаў гаворку і пра кніжную серыю МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы», у межах якой свет пабачылі ўжо два дзясяткі першых кніжак таленавітых юных аўтараў.

Перад слухачамі выступілі маладыя паэтэсы, лаўрэаты гарадскіх, універсітэцкіх, рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных прэмій. Гэта члены СПБ Ганна Мартынчык і Таццяна Купрыянец. А кандыдат у члены СПБ Анастасія Трэшчава прадставіла яшчэ і першую кнігу сваёй сяброўкі, кандыдата ў члены СПБ Кацярыны Роўда «Водар белага наліву», што выйшла сёлета ў кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы». Арганізатар і галоўны рэдактар гэтай кніжнай серыі — Міхась Пазнякоў.

У працы «круглага стала» ўзялі ўдзел паэты, кіраўнікі Студыі ваенных пісьменнікаў Яўген Каршукоў, Леанід Лукша, дырэктар кніжніцы Віктар Паўлаў. Прагучалі песні на вершы беларускіх паэтаў у выкананні Сяргея Краўца, Аляксандра Якіменкі і Анастасіі Кулаковіч.

# Дарогамі Гедройца

**Выстаўку, прысвечаную вядомаму публіцысту, палітыку і мемуарысту Ежы Гедройцу, плануецца арганізаваць у нашай краіне. Дамоўленасць аб сумесных польска-беларускіх праектах, звязаных з папулярызацыяй спадчыны Гедройца, была дасягнута падчас дыпламатычнай сустрэчы. Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка наведаў Асацыяцыю «Літаратурны інстытут "Культура"», дзе працаваў публіцыст, пагутарыў з яе прэзідэнтам Войцехам Сікорам. У дар асацыяцыі ад імя прафесара Адама Мальдзіса было перададзена выданне «Ежы Гедройц і Беларусь».**

Заснавальнік і рэдактар парыжскага грамадска-палітычнага часопіса «*Kultura*», ураджэнец Мінска, заўсёды з цеплынёй успамінаў пра горад свайго дзяцінства, які вымушаны быў пакінуць ва ўзросце 10 гадоў, каб атрымаць адукацыю ў Маскоўскай гімназіі. Вядома, што ў дадатку да «Культуры» выпускаліся, у тым ліку, творы і артыкулы, што тычыліся Беларусі. Сёння адна з вуліц сталіцы носіць яго імя… Як і прэмія за найлепшую кнігу ў жанрах мастацкай прозы і эсэістыкі.

Апошні раз наш знакаміты зямляк быў на радзіме ва ўзросце 92 гадоў, наведваў выстаўку, прысвечаную сваёй дзейнасці. Ежы Гедройц станоўча паўплываў на развіццё культурна-літаратурнага жыцця Еўропы. Акрамя часопіса «*Kultura*», які меў свае прадстаўніцтвы ажно ў 18 краінах, ён заснаваў у Рыме ў няпросты час, у канцы 1940-х гадоў, выдавецтва «*Instytut Literacki*».

Павага да эмігрантаў, заклікі да міру і супрацоўніцтва краін у палітычных справах, вера ў незалежнасць Украіны, Беларусі і Літвы (яго вядомае прароцтва у канцы 40-х гадоў) — толькі некалькі штрыхоў да яго шматграннага партрэта.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Дайджэст

• Легенду беларускай эміграцыі Янку Запрудніка чакаюць у Мінску 28 чэрвеня. Да яго 90-годдзя згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» падрыхтавала кнігу «Кантакты», якая нядаўна выйшла ў серыі «Бібліятэка "Бацькаўшчыны"». Выданне заснаванае на лістах, якія пісалі Янку Запрудніку беларусы з метраполіі. Як адзначае адзін з укладальнікаў кнігі Наталля Гардзіенка, яе можна лічыць працягам выдадзенай у мінулым годзе кнігі «Па гарачых слядах мінуўшчыны. Лісты 1952 — 1959 гадоў». Выкарыстаны той жа архіў, але з іншага ракурсу і іншымі ўкладальнікамі. У «Кантактах» паказана, як і дзеля чаго наладжваліся сувязі беларусаў з Беларусі з суродзічамі-эмігрантамі. Янка Запруднік толькі адрасант змешчаных у выданні лістоў, але ён застаецца галоўным героем кнігі. Прэзентацыя «Кантактаў» адбудзецца з удзелам самога Янкі Запрудніка 28 чэрвеня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна.

• Брытанскі пісьменнік Дэвід Мітчэл, найбольш вядомы як аўтар кнігі «Воблачны атлас», напісаў раман, які прачытаюць праз сто гадоў. Такім чынам ён узяў удзел у праекце, названым «Бібліятэкай будучыні». Мітчэл упэўнены, што кнігі ў папяровым варыянце будуць запатрабаваныя і праз стагоддзе. Калі ж твор не зацікавіць будучыя пакаленні, значыць, ён быў напісаны адно на патрэбу дня, кажа пісьменнік. «Бібліятэка будучыні» створаная ў Осла і актыўную дзейнасць распачне праз тры гады. Але і цяпер на заклік далучыцца да праекта адгукнуліся шматлікія вядомыя ў свеце літаратары. Першы рукапіс, які трапіў у бібліятэку, належыць Маргарэт Этвуд, пісьменніцы з Канады, уладальніцы Букераўскай прэміі. Імёны астатніх удзельнікаў пакуль не агучваюцца.

• Незвычайная выстаўка адкрылася ў Геленджыку: мясцовы краязнаўчы музей выставіў прадметы, створаныя з выкарыстаннем шакаладу. Сярод экспанатаў — вокладкі твораў класічнай літаратуры. Аўтарам трохсот незвычайных работ з'яўляецца майстар з Сімферопаля Мікалай Папоў.

• Год мовы і літаратуры адзначаецца сёлета сумесна ў Вялікабрытаніі і Расіі. З гэтай нагоды англічане ўсталявалі на тэрыторыі Кіпскага ўніверсітэта бюст Іосіфа Бродскага. Бронзавы помнік стварыў Кірыл Бабылёў, які выйграў права на гэта ў конкурсе маладых скульптараў. Кіпскі ўніверсітэт быў абраны для ўшанавання памяці паэта па просьбах выкладчыкаў і студэнтаў установы, бо менавіта тут руская мова з'яўляецца адной з асноўных дысцыплін, тут жа працуе Фонд рускіх паэтаў. Улічваўся і той факт, што Бродскі не раз наведваўся ў сцэны ўніверсітэта і чытаў тут лекцыі.

• Мэрыя Кракава вядзе перамовы з сынам пісьменніка Чэслава Мілаша. Размова ідзе пра продаж кватэры, дзе пісьменнік пражываў свае апошнія адзінаццаць гадоў. Улады далі гэтую кватэры Мілашу па яго вяртанні з эміграцыі. Аднак выкупіць квадратныя метры мэрыя жадае не дзеля таго, каб стварыць музей пісьменніка: улады плануюць перанесці ўсе прадметы побыту, мэблю і іншае ў кракаўскі Дом літаратуры, а саму кватэру пераатварыць у жыллё для пісьменнікаў, якія наведваюць культурны цэнтр краіны. Цікава, што ў 2004 годзе Кракаў па рашэнні ЮНЕСКА атрымаў статус горада літаратуры, а такіх у свеце менш за дзесяць.

• У бібліятэцы Сінгапура працуе робат. Яго стварылі спецыялісты Даследчага інстытута інфакамунікацыі Агенцтва навукі, тэхналогій і даследаванняў Сінгапура. Робат атрымаў імя *AuRoSS*. Ён перасоўваецца з дакладнасцю да аднаго сантыметра, скануе кніжныя паліцы, распазнае пустыя месцы і фіксуе пераблытаныя месцамі кнігі. Сабраная інфармацыя перадаецца бібліятэкарам, якія і аднаўляюць належны парадак. Робат мае модулі бесправаднай сувязі *Bluetooth* і *Wi-Fi*, камеру, лазерны дальнамер, маніпулятар і адмысловую антэну для расчытвання пазнак.

Працяг. Пачатак на стар. 1.

# За Песняром

## Што за феномен Мулявіна для Беларусі, калі гэтая асоба жывіла нашу культуру з канца 60-х і працягвае гэта рабіць?

### ЗОРКА ПА ІМЕНІ…

Становіцца галоўным героем канцэрта «Песенная спадчына Уладзіміра Мулявіна» на Нацыянальным фестывалі ў Маладзечне. Усё таму, што сваёй пасіянарнай энергіяй артыст здолеў захапіць беларускай мовай не толькі тых, хто атрымаў яе ў спадчыну, але і жыхароў абсалютна далёкіх рэгіёнаў. Мову вучылі, каб спяваць «Песняроў» далёка за межамі Беларусі. Прыклад таго, што песня — той малы жанр, за якім можа стаяць вялікі сэнс. Можа стаяць, а можа не стаяць — выходзячы з таго, як гэты жанр (і дзеля чаго) выкарыстоўваецца. Калісьці фестываль песні ў Маладзечне пачыналі менавіта з-за высокага — «мулявінскага» — сэнсу, які неабходна было ўкараніць у Беларусі. І напачатку здавалася, што так будзе: фестываль павінен быў даваць імёны і творы, якія б потым спявала ўся краіна на сваёй мове. Шаснаццаць фестываляў за плячыма, а сэнс усё той жа. Мы з задавальненнем спяваем і слухаем «Песенную спадчыну Уладзіміра Мулявіна». І гэта наша галоўнае эстраднае адкрыццё. У тым ліку на фестывалі…

Праграма, падрыхтаваная Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, была пабудавана адметна. Падкрэсліваўся фальклорны складнік творчасці Уладзіміра Георгіевіча. Можа, не ўсе самыя вядомыя хіты. Але ж дакладна не абмінеш песню Юрыя Семянякі «Ты мне вясною прыснілася», якую праспяваў малады артыст і пераможца конкурсу ў Маладзечне (2009 г.) Аляксандр Салаўёў. Па-іншаму цяпер гучала песня. А што ўжо казаць пра «Чырвоную ружу», якую калісьці спяваў сам Мулявін, а цяпер — Таццяна Глазунова. Сама як рок-ружа (нават руды колер валасоў зрабіла), ды ў скуранай вопратцы — і мужчынская песня становіцца жаночай. У той час як Галіне Грамовіч, напрыклад, вельмі пасуе «А ў полі вярба». Маладая салістка Алеся Дзяржавец па-сучаснаму выканала «Рэчаньку» — у джазавай манеры. Таксама як і абаяльны Яўген Цымбаліст прадставіў «Скрыпяць мае лапці», можна было і паверыць хлопцу ў вышымайцы. Калісьці «Песняры» сапраўды ўмелі ствараць вобраз песні, па гэтым ансамблі ўяўлялі Беларусь. Як зорку — па зорках. Таму Уладзіміру Мулявіну, народнаму арстысту Беларусі і СССР, заклалі зорку ля канцэртнай залы «Расія». Удзельнікам таго канцэрта быў народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг, які падкрэсліў са сцэны: «Мулявін заўсёды ішоў наперадзе. Будзе цяжка яго дагнаць».

Ды, здаецца, ніхто і не спрабуе. Каб яго не тое што дагнаць, а наблізіцца да ўзроўню, трэба мець адметны, не падобны ні да каго рэпертуар. І не проста спяваць ці іграць на інструментах. Весці за сабой. Нават тых, хто не ўпэўнены, што трэба ісці. Колішнія «Песняры», ды і шэраг артыстаў былых часоў — гэта рамантыкі сцэны. Кіраваліся прынцыпам: рабі што трэба — і будзе што будзе. Вартая справа сябе правіць. І яго не расцярушыш. Прыклад — Уладзімір Ткачэнка, цяпер гітарыст Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. А калісьці — адзін з легендарных «Песняроў». Адна кампазіцыя — сола на гітары — і ўсё зразумела: майстэрства не расцярушыш, яно на баку тых, хто можа звацца асобай у музыцы.



Фота Кастуся Дробава.

Гітарыст Уладзімір Ткачэнка пачынаў у «Песнярах».

### ПРЫЗ ІМЯ…

Дзеля пошуку асоб стварылі ў рамках Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі конкурс маладых вакалістаў. Цяпер ён праходзіць у тры туры. Два фінальныя адбываюцца ўжо ў Маладзечне. У гарадскім Палацы культуры конкурсанты спявалі пад фанаграму «мінус адзін» і разам з Нацыянальным канцэртным аркестрам. 20 маладых удзельнікаў — гэта столькі надзей на тое, што ў нас з'явіцца артыст, здольны ўразіць усю краіну не толькі голасам, але і аддасцю менавіта нацыянальнай культуры.



Фота БелТА.

Аляксандр Саванец атрымлівае прыз імя Мулявіна.

Таму што за гады існавання конкурсу праз яго прайшлі шмат артыстаў, ёсць шмат пераможцаў, якія не згубіліся і актыўна выступаюць. Але ж нездарма на гэтым конкурсе акрамя Гран-пры ўручаюць яшчэ прыз імя Уладзіміра Мулявіна. Сёлета абедзве галоўныя ўзнагароды дасталіся Аляксандру Саванцу (прадстаўляў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў). Святлана Мулявіна-Пенкіна ўручыла яму празрыстую гітару — сімвал надзеі, што з'явіцца годныя спадкаемцы ў артыстаў мінулых часоў.

І нібыта ж ёсць, калі меркаваць па выніках конкурсу. Таму што другое месца падзялілі Ніна Жукоўская (Мінск) і Марына Бараноўская (Віцебская вобл.). На трэцяй пазіцыі адначасова апынуліся Аляксандр Ласоўскі (Гомельская вобл.), Ксенія Бучылка (Гродзенская вобл.), Аляксандра Вітушкіна (Віцебская вобл). Прыгожыя (для сцэны), спяваць могуць. Што і дзеля чаго — вось пытанні, якія трэба было б моладзі задаваць перш, чым выходзіць на сцэну, тым больш у нацыянальным конкурсе. Імкнучыся да непаўторнасці, яны часам успрымаюцца аднолькавымі (ці аднолькава незапамінальнымі), таму што не адчуваюць вагу слоў, якія важкая частка добрай песні. Самаробныя (часта сумнiўныя па якасці) песні — можа быць, лепшы варыянт для выканання на конкурсах.

Адзін з членаў журы кампазітар Эдуард Зарыцкі адзначыў:

— Большасць песень конкурсанты пішуць самі: і вершы, і музыку, яшчэ і аранжыроўкі робяць. Якасць адразу адчуваецца: ці гэта прафесійны кампазітар напісаў, ці самадзейны. Акрамя таго, мяне вельмі дзівіць, што людзі маладыя, а песні спяваюць нейкія сумныя. Гэта ж конкурс, дзе трэба перамагаць! Маладым трэба спяваць рытмічныя, тэмпавыя песні, а не тыя, што працуюць супраць спевака. Не скажу, што па ўзроўні ўдзельнікаў гэта быў самы моцны конкурс. Самае галоўнае, што яны спявалі з жывым аркестрам. Таму што выканаўца, які хоць раз у жыцці спяваў з жывым аркестрам, будзе харошым чалавекам.

Эдуард Барысавіч бярэ ўдзел у Маладзечанскім фестывалі з самага першага разу. Узгадвае папярэднія гады, калі менавіта тут упершыню гучалі яго новыя песні. Яны гучалі з гэтай сцэны, траплялі ў тэлеэфір, ішлі «ў народ», станавіліся папулярнымі. З вялікай сцэны гучала паэтычнае слова. Узнікалі творчыя тандэмы паэтаў і кампазітараў, што таксама спрыяла з'яўленню песень. Больш сваіх, на роднай мове. Больш музыкі, якая б магла запоўніць нацыянальны радыё- і тэлеэфір. І гэта яшчэ адна праблема, якая вырашалася шляхам фестывалю. Бо навошта даваць штуршок для творчасці артыстам на нацыянальным фестывалі, калі яны не працуюць на задачы фарміравання айчыннай культурнай прасторы? Артысты будуць. Зоркі — магчыма, нават пазнавальныя.

### УСЕ ІМЁНЫ

І самае галоўнае. Публіка хоча пазнаваць сваіх: Маладзечна сведчыць. Гатовыя слухаць песні па-беларуску. Ці то спяваюць іх знакамітыя Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, ці зусім невядомыя конкурсанты. Дарэчы, гэта якраз выпраўляецца вельмі хутка. Таму што ў тым жа конкурсе ў Маладзечне пачыналі Іна Афанасьева, Ірына Дарафеева, Вікторыя Алешка, удзельнікі канцэрта «Беларусь — крыніца натхнення». Іх тут было шмат — маладых, задорных. Тых, хто, дарэчы, разумее, куды і навошта ехаў: варта было хоць бы паглядзець на строі з нацыянальнымі ўзорамі. І гэта ж трэба: аказваецца, іх гатовы слухаць нават пры вельмі халодным надвор'і ў адкрытым амфітэатры. Чакаюць выхаду «Палаца» (які шмат гадоў паспяхова натхняе выкарыстаннем фальклору). І нават выступлення Дзяржаўнага ансамбля танца (аказваецца, запальвае). Але як жа зрабіць так, каб гэта бачылі і адчувалі ў іншых гарадах? Каб імёны нашых артыстаў станавіліся для людзей зорkавымі. Каб гарэлі, каб грэлі іх песні, створаныя ў розных стылях. І шкада, што толькі ў Маладзечне нашы эстрадныя выканаўцы маюць магчымасць паказаць сваю прыналежнасць да Беларусі. Ці стануць яны ў вачах публікі артыстамі ўзроўню Мулявіна? Для гэтага патрэбна шмат спалучэнняў.

Мала проста зрабіць нацыянальны фестываль. Трэба яго зрабіць нацыянальным. Гэта значыць, самым важным з усіх фестываляў, што ладзяцца ў культуры краіны. Нацыянальны ўзровень — гэта калі Першы канал айчыннага тэлебачання транслюе асноўныя канцэрты свята ў прайм-тайм. Гэта калі паэты і кампазітары ствараюць і прадстаўляюць на ім свае новыя песні. Калі гэтыя песні прыходзяць у айчынны эфір радыё і ў прасторы гучаць песні на беларускай мове, якіх ад Маладзечна да Маладзечна з'яўляецца з кожным годам больш. Пагадзіцеся: зразумела, чаму ў польскім радыёэфіры гучыць шмат песень па-польску. У Літве вы пачуеце літоўскую мову ў спевах. У іншых нашых суседзяў таксама ўсё файна ў гэтым кірунку. Таму што якія песні — тая і краіна. Якія песні прадстаўляюць артысты, такую і энергію мы атрымліваем ад іх зорнасці. І вельмі не хацелася б, каб Мулявін застаўся як «наша ўсё» ў песні. Лепш, каб песні прадстаўлялі «ўсё наша».

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Свята як камета

Пра тое, якім чынам варта развіваць фестываль, кожны з яго гледачоў можа мець уласнае меркаванне. Але ёсць асобы асабліва зацікаўленыя. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў падчас сустрэчы з журналістамі адзначыў:

— На мой погляд, жыхары ў нашай краіне перанасычаныя культурнымі мерапрыемствамі, якія адбываюцца штогод у розных месцах. У чэрвені — штотыдзень пераезд на новы фестываль. І так усё лета…

Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі як камета: палыхнуў, але хвост яшчэ доўга будзе цягнуцца шлейфам. Яго мерапрыемствы традыцыйныя: конкурс, шэраг канцэртаў, паэтычная гасцёўня. Але сёлета быў новы элемент: у Маладзечне паказалі спектакль «Пясняр» Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Што яшчэ трэба зрабіць, каб Маладзечанскі фестываль стаў больш запамінальным?.. Мне заўсёды на гэтым фестывалі не хапала такога важнага складніка, як паэзія. Думаю, што трэба знайсці формы, каб больш выразна гучала наша цудоўнае беларускае слова — і класікаў, і маладых паэтаў. Трэба данесці яго і з галоўнай сцэны фестывалю, і праз гасцёўню, і шырэй. Я гатовы падтрымаць любую ініцыятыву, якая будзе адпавядаць ідэі фестывалю!

# Сталічныя чаканні і вітанні



Фота БелТА.

*Маладзечанская вышывальшчыца, майстра клуба «Вытокі» раённага цэнтра рамёстваў Наталля Пракаповіч ставіцца да арнаментаў як да пасланняў з мінулага.*

**Культурная сталіца віравала. Адчуванне свята пачыналася ў Маладзечне з гарадской плошчы. Былі гады, калі тут майстравалі сцэну для канцэртаў, куды сцякаўся ўвесь горад. Але цяпер гэта месца гандлёвых шапікаў з розных рэгіёнаў і, па традыцыі, бойкай «тусоўкі». Месца для своеасаблівага пралога нацыянальнай тэмы. Месца, дзе віруе фестывальны дух. Святочна-творчы.**
**Майстры і майстрыхі прапануюць свае вырабы — вочы спыняюцца на тых, дзе родныя і пазнавальныя, такія блізкія малюнкі і фарбы. «Сваё» не проста пазнаеш, яно неяк прыцягвае і нібыта дакарае, калі хочаш прайсці міма. І нават калі прайшоў, яно трымаецца ў галаве, западае ўсімі кветкамі-ўзорамі. Не толькі мне!**

Маладая сям'я: тата высока на плячы нясе дзіцятка, дзяўчынка маўкліва едзе, пагляда з вышыні і азіраецца на самае цікавае, чаго не ўбачыш у любы дзень. Праўда, прагматычныя бацькі ідуць на пах смакотаў — з сабой на канцэрт чаго прыхапіць, каб дачакацца фестывальнага феерверку: Год культуры, ды ў культурнай сталіцы!

Здавалася, у маладзечанцаў да шаснаццатага фестывалю ўжо выпрацавалася загартоўка канцэртамі, нават начнымі (дзе ў папярэднія гады было месца і джазу, і року, і фольку), сольнымі, складана іх здзівіць шоу... Падобна, адчуванне свята яны носяць глыбока ў сабе і патэнцыйна гатовыя выпусціць вонкі. Рознакаляровыя промні разрывалі начное неба, людзі не спяшаліся разыходзіцца.

Але ж новы дзень — і новыя акцыі, новыя нагоды сустракацца і працягваць асэнсоўваць лепшыя рысы нацыянальнага характару праз культуру. Нагод прадугледзелі для гэтага шмат. Не толькі канцэрты, дзе акрамя вядомых артыстаў выступалі самадзейныя калектывы, фальклорныя і дзіцячыя. Сталася адметнай акцыя «Вітаем кніжку беларускую». Маладзечанская бібліятэка стварыла выстаўку беларускіх кніг, якая сама прыязджала да патэнцыйных чытачоў. І хто яшчэ не ведаў, што такое «бібліёбус», маглі не проста паглядзець, але і скарыстацца паслугамі перасоўнай бібліятэкі, што працавала ў фестывальныя дні. Яе шлях пачынаўся ад цэнтральнай плошчы. І не скончыўся, па сутнасці: яшчэ да канца года можна спаборнічаць у конкурсе на лепшага чытача беларускай кнігі, што будзе абраны маладзечанскай бібліятэкай.

Усё ж ёсць у чытачоў перавагі перад гледачамі: новыя фестывалі не кожны дзень пачынаюцца і абмежаваныя ў часе. Новыя кнігі можна адкрываць і адкрываць — не канчаюцца. Вось свята!..

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# На чые словы песня?

## Паэтычная гасцёўня стала адзіным літаратурным мерапрыемствам на фестывалі «Маладзечна-2016»

**Удалыя літаратурныя вечарыны, якія пакідаюць адмысловы паэтычны настрой, здараюцца не так часта, нават калі ў спісе запрошаных ёсць імёны яркіх паэтаў. Кожны творца стварае сваю атмасферу і выходзіць да публікі толькі са сваімі словамі пра галоўнае, таму вельмі важна, каб на эмацыянальным узроўні свята аб'яднала найперш выступоўцаў.**
**Для паэтычнай гасцёўні, як і для ўсяго Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі Маладзечна-2016, скразной тэмай стаў успамін пра творчасць Уладзіміра Мулявіна.**

Гасцёўня таксама распачалася знакамітай песняй «Малітва» на словы Янкі Купалы. Песня мае цікавую творчую гісторыю: Уладзімір Мулявін спалучыў два тэксты Купалы, напісаныя ў 1906 і 1912 гадах, змяніў два словы і прынёс кампазітару Алегу Моўчану.

Дарэчы, на пачатку літаратурнай вандроўкі, 11 чэрвеня, удзельнікі гасцёўні наведалі Вязынку, каб ускласці кветкі да помніка Янкі Купалы і прачытаць прысвечаныя яму творы. Вобраз паэта-класіка асвятляе беларускую літаратурную традыцыю. Таму падчас сустрэчы было лагічна пачуць вершы пра любую бацькоўскую хату, зіхатлівыя крыніцы і вецер у жыце — як даніну памяці славутым творцам. Зрэшты, ад небяспекі эпігонства вострымі эпіграмамі перасцярог прысутных Анатоль Зэкаў.

На фоне лірычных вершаў Міколы Шабовіча, Уладзіміра Мазго, Кастуся Цыбульскага і Змітрака Марозава адметным стаў дзівосна-фантастычны паэтычны свет Маргарыты Латышкевіч. Паэты завіталі ў літаратурную гасцёўню разам з выканаўцамі і кампазітарамі (часам у адным абліччы), якія прадставілі песні на іх вершы.

— Мы ўпершыню запрасілі на сустрэчу кампазітараў, бардаў, эстрадных выканаўцаў, — адзначыла вядучая гасцёўні паэтэса і журналіст Таццяна Сівец. — Музыка дапамагае ўспрымаць паэзію, таму, калі вершы чаргуюцца з песнямі на добрыя творы, гэта толькі на карысць мерапрыемству.

Гучыць вядомая песня, артыст знаёміць публіку з аўтарам тэксту, паэт чытае творы... Гэты фармат падаецца аптымальным для кожнага канцэрта, але, на жаль, так здараецца не заўсёды. Літаратурная гасцёўня стала добрай магчымасцю прадставіць стваральнікаў такіх вядомых песень, як «Родны кут» (словы Міхася Пазнякова, кампазітар і выканаўца Сяргей Кравец), «Балада пра званочак» (словы Навума Гальпяровіча, кампазітар і выканаўца Алег Сямёнаў). Пасля эстраднай музыкі зачаравалі публіку песні пад гітару Алесі Сівохінай і Алеся Камоцкага.

— Хацелася б памарыць, што некалі паэтычнае слова будзе прадстаўлена ўпоравень з музыкай — каб шырокая публіка на канцэртах бачыла і пазнавала нашых паэтаў-песеннікаў, — заўважыў Навум Гальпяровіч, які таксама рыхтаваў і вёў мерапрыемства.

У гасцёўні часта гучалі не толькі словы ўзаемнай удзячнасці ад выступоўцаў, але і ўхвальныя каментарыі з залы. Чулае ўспрыманне паэзіі сведчыла пра тое, што на сустрэчу сабраліся людзі, уважлівыя да мастацтва.

Літаратурныя гасцёўні прыйшлі на змену паэтычным чытанням у парку пасля з'яўлення ў Маладзечне строгага і прыгожага Палаца культуры.

— Сустрэчы тут адбываюцца больш урачыста. Раней паэты збіраліся на вуліцы — там таксама было няблага, але, магчыма, пра гэта ведалі не ўсе. А палац знаходзіцца ў цэнтры, аўдыторыя збіраецца большая, — мяркуе паэт Уладзімір Мазго.

Вядома, у выніку змен нешта засталося за дужкамі — але чаму б, напрыклад, не аздобіць фестываль традыцыяй паэтычных слэмаў, каб пашырыць прадстаўніцтва паэзіі? Менш экстрэмальны варыянт — арганізаваць у пятніцу, першы дзень фэсту, літаратурную гасцёўню для маленькіх чытачоў, якія наведваюць школьныя летнікі. Такая сустрэча падаецца тым больш актуальнай, што ў праграме фестывалю не прадугледжвалася мерапрыемстваў непасрэдна для дзяцей.

**Юлія ШПАКОВА**

# Водгаласы Маладзечна

**У маладзечанскім фестывалі песні ды паэзіі я ўдзельнічала двойчы — у мінулым годзе і сёлета. Ураженні штогод падобныя: незалежна ад надвор'я пачувалася ўтульна, амаль як дома. Горад кожны раз па-асабліваму чысты, святочны, і музыка над паркам плыве, і лебядзіны човен — па маленькім возеры. І натоўп плыве, віруе поруч з амфітэатрам, распадаецца на дробныя ручаіны, абцякае плошчу. Шумны, радасны, няспынны рух. Жыццё.**

Унутры сучаснага трохпавярховага будынка Палаца культуры чакаюць, і сустракаюць, і частуюць. Чыста беларуская гасцінасць, самы шчыры і непасрэдны, кранальны клопат, ажно грэе сэрца: «Вы ж з дарогі!..»

Па льсняных прыступках трэба ісці наверх, да светлай залы. Там мікрафоны на тонкіх жураўліных нагах, і кветкі, і ўсмешлівыя дзяўчаты ў народных строях. За паўгадзіны да пачатку на глядацкіх месцах яшчэ амаль нікога няма, але пастаіш ля ўваходу — і пабачыш: ідуць людзі, спрэс урачыста апранутыя, спрэс святочныя. Маладзейшыя, сталейшыя. Пенсіянеры, падлеткі, нават зусім маленькія…

Калі параўноўваць, дык гэта, мусіць, адна з самых удзячных аўдыторый, перад якімі мне даводзілася выступаць. Пасля гасцёўні падыходзяць, задаюць пытанні, просяць пакінуць кантакты. Вось вам і сувязь паміж аўтарам і чытачом, напрасткі, хоць рукой дакраніся. Як ні круці, а паэту трэба з вершамі выступаць, трэба чытача бачыць, чуць, разумець. А чытач, у сваю чаргу, будзе памятаць, што пісьменнік — гэта не проста пыльны томік з бібліятэкі, а жывы чалавек. Такі самы, як ён.

Перад такою аўдыторыяй хочацца чытаць верш за вершам, самыя лепшыя, самыя свежыя. Адна бяда: цэйтнот. І мімаволі думаеш: а вось калі б часу на творчыя сустрэчы было болей? Калі б можна было зладзіць літаратурныя майстар-класы для зацікаўленай моладзі? Калі б можна было аўдыторыю паэтычнай гасцёўні пашырыць, далучыўшы тэлевізійны фармат?..

Мяркую так: трэба і далучаць, і ладзіць, і развіваць. Працягваючы традыцыі, убіраць у сябе новае, падхопліваць лепшыя тэндэнцыі сучаснасці. Дзеля чытачоў, дзеля аўтараў, дзеля літаратуры як такой.

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**

# Драма на кантрастах




***

**Выдатна.** Наўрад ці справядлівае выказванне, што кепскае забываецца. Прынамсі, ваеннае рэха гучыць у сучаснай літаратуры па-ранейшаму выразна. У № 5 «Полымя» тры такія творы, і найперш трэба адзначыць апавяданне Васіля Макарэвіча «Сын». Сярод блока мастацкіх тэкстаў нумара яго вылучае аўтарскае ўменне «чытаць у душах». Галоўныя героі апавядання — жанчыны, яны застаюцца безыменнымі, але яркія апісанні знешнасці, псіхалагічна абгрунтаваныя іх учынкі робяць вобразы запамінальнымі, выразнымі (у процівагу прозе, дзе герояў можна адрозніць хіба па імені). Кароткае апавяданне дзякуючы сцісласці, якая не ператвараецца ў сухую канстатацыю, апісвае і ваенную вёску, і становішча Мінска пасля вызвалення, і жыццё людзей пасля вайны (інвалід на Камароўцы — вобраз жудасны і аб'ёмны; караценькія партрэты гараджан, якія не адцягваюць на сябе ўвагу, але даюць уяўленне пра час і інш.). Без прасталінейнай маралі Васіль Макарэвіч паказвае, што і ў звярыных умовах людзі застаюцца падуладныя пачуццю роднасці, захоўваюць любоў да блізкага. Штопраўда, фінал апавядання бачыцца крыху сентыментальным і прадказальным. Аднак гераіня заслугоўвае гэтае шчасце — хоць бы і ўяўнае.

**Сумніўна.** У працяг ваеннай тэмы — аповед-быль Міколы Гіля «Дурны Язэп». Сюжэт гэтай былі драматычны і мог бы стацца ўдалай асновай для п'есы ці навелы: мужчына адмаўляецца стаць мужам іншай дзеля ўратавання свайго жыцця, застаецца верны жонцы, якой не здраджваў ані ў думках, і, насуперак чытацкім чаканням, гіне. Жонка ведае пра гэта, яе раздзіраюць супрацьлеглыя пачуцці: радасць, што муж так кахаў яе, і шкадаванне, што не ўратаваўся. Тут і драма вайны, і чалавечая жарсці, і бязлітасны лёс. Усё магло б быць — але аўтар абраў форму паэтычную. У выніку атрымаў міні-паэму (насамрэч, жанр цяжкавызначальны). Хаця драма глыбокая.

**На суд чытача.** Віктар Шніп працягвае друкаваць дзённікі. Самі па сабе ўспаміны застаюцца непадсуднай уласнасцю аўтара. Але надрукаваныя, яны аўтаматычна пераходзяць у шараг мастацкага тэксту. І чытач узбройваецца крытыкай. Так, каштоўныя нечаканыя асацыяцыі, якія агучвае Віктар Шніп, паназіраўшы за будзённасцю. Парадоксы, анекдатычныя сітуацыі, у якіх заключаныя трапныя штрышкі да чалавечых партрэтаў. З іншага боку, падрабязныя апісанні паездак на малую радзіму, ці гістарычныя звесткі пра той ці іншы помнік культуры, ці ўражанне ад выстаўкі і інш. — гэта можа быць і не дужа цікава чытачу. Ці сапраўды з песні слова не выкінеш? Ці варта апрацоўваць дзённікі перад публікацыяй, гледзячы на іх не як на занатоўкі, але з перспектывай, як на цэласны мастацкі тэкст?.. Пытанні адкрытыя.




***

**Выдатна:** навелы Уладзіміра Сцяпана. Гэты пісьменнік вельмі лірычны, але не баіцца кантрастаў і рэзкасці (у сэнсе — не правакатыўнасці, а непасрэднасці). Адна з характэрных рыс прозы Уладзіміра Сцяпана — псіхалагізм, які мяжуе з натуралізмам. Хлопчык сядзіць у бальніцы побач з цяжка хворым настаўнікам (навела «Трава, што рэжа рукі») — не толькі напружаны і спалоханы, але і зацікаўлены тым, што бачыць амаль нябожчыка. Прыкідвае, каму застануцца фарбы, пэндзлі і кніжкі настаўніка, але гэтыя думкі не робяць хлапчука адмоўным персанажам. Жывому — жыць... У навеле, дзе апісаны адзін з апошніх вечароў у дзедавай хаце, герой разважае, ці варта наведаць месца, дзе стаяла сядзіба, — і замест шчымлівых слоў заканчвае твор катэгарычным «Навошта?». Шчырасць у дачыненні да чытача заўсёды дорага каштуе...

**Сумніўна:** паэзія. Пяты нумар прапануе знаёмства з творчасцю Міколы Шабовіча, Валерыя Максімовіча і Рагнеда Малахоўскага. З пункту гледжання крытычнага чытача бракуе паэтычных адкрыццяў, глыбіні і цікавых тэм. З пункту гледжання аўтараў (напэўна) надрукаваныя вершы — больш ці менш дасціпны напамін пра адметную падзею ці ідэю, з якім прыемна будзе пазнаёміцца іншым. Паэзія Валерыя Максімовіча вяртае ў эпохі рамантызму і адраджэння: перажыванні героя маюць касмічны маштаб, дый сам ён жыве ў свеце мора, гор і стыхій. Атрымліваецца велічна, але паэту прыкметна бракуе асцярожнага, клапатлівага стаўлення да слова.

У вершах Рагнеда Малахоўскага апынаюцца побач, здаецца, выпадковыя вобразы, якія часта дысануюць і правакатыўна не спалучаюцца між сабой. Абнадзейвае адзінае лагічнае — «ідэя». «Мары», «рыфмы», «вобразы» — усё гэта ёсць у падборцы, але без «ідэі» было б неперakanаўча!

**На суд чытача:** нататкі партызан. Пагодзімся з рэдакцыяй часопіса: успаміны Паўла Мельнікава і дзённікавыя запісы пісьменніка Пятра Валкадаева каштоўныя для сучаснікаў, бо «перадаюць атмасферу першых дзён вайны, партызанскага жыцця, утрымліваюць ацэнку падзей іх непасрэднымі ўдзельнікамі». Людзі, якія набліжалі перамогу, былі надзвычай рознымі, пра што яскрава сведчаць апублікаваныя тэксты. Нататкі дапамагаюць уявіць аблічча партызан і зацікавяць тых, хто займаецца ваеннай тэмай.




***

**Выдатна.** Такую адзнаку хочацца паставіць усяму раздзелу крытыкі майскага нумара «Маладосці». Тут і глыбокая аналітыка творчасці Элізы Ажэшкі, прычым не толькі літаратурнай (Мікалай Хмяльніцкі распавядае і пра вядомую беларускую пісьменніцу, і пра яскравую грамадскую дзеячку, у якой сённяшнім феміністкам ёсць чаму павучыцца), і вельмі ўдалая рэцэнзія на кнігу Таццяны Сівец «Разняволенасць», і падрабязны агляд творчасці лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры за апошнія дзесяцігоддзі. Прычым усе з пералічаных матэрыялаў вельмі цікавыя і захапляльныя — не адарвацца!

**Сумніўна.** Проза маладога пісьменніка Яўгена Казарцава падалася неадназначнай. Тое, што аўтар любіць творчасць Таццяны Талстой і Уладзіміра Набокава, нельга не заўважыць па яго стылі, але гэта іграе з Яўгенам злы жарт — апавяданне можна сабраць па кавалачках: вось гэта часточка ад Талстой, а гэта з Набокава, тут крыху Бродскага, а вось гэты абзац вельмі Даўлатаўскі. І цалкам нібыта прыгожа, і чытаецца лёгка, нават месцамі кранае і чапляе, але па выніку ў галаве круціцца невымоўнае пытанне: «А аўтар хто?», бо Яўгена Казарцава ў тэксце заўважыць цяжка.

**На суд чытача** хацелася б пакінуць нізку вершаў Анхелы Эспіносы Руіс «Цень твайго ценю». Гэта беларуская паэтэса іспанскага паходжання ўжо нарабіла нямала шуму ў літаратурных асяродззі нашай краіны. Хтосьці ўзносіць на Алімп гэтую маладую дзяўчыну ўжо толькі за тое, што яна дасканала вывучыла беларускую мову. Хтосьці параўноўвае літаратурны талент Анхелы з вершамі Максіма Багдановіча. Адным словам, водгукі процілеглыя. Але адно можна сказаць дакладна: дзяўчына не без таленту, а яе цікавасць да беларускай мовы, літаратуры і гісторыі выклікае павагу. Хочацца, каб і нашы суайчыннікі з такім жа імпэтам вывучалі не толькі замежныя мовы і культуры, але і сваю. Што да вершаў Анхелы Эспіносы Руіс, то яны вартыя ўвагі. Чытайце — высновы зробіце самі!

# Быць дарослай — і не здавацца

**Спадзяванні і расчараванні, клопаты за блізкіх, складаныя сітуацыі і новыя высновы — з гэтага складаецца будзённае жыццё, якое часам выяўляецца ў літаратуры.**

Як адлюстраваць жаночы досвед і зрабіць твор чытэльным для мужчын? Знайсці арыгінальнае мастацкае рашэнне — палова поспеху.

Такім творам стала апавяданне Ірыны Шумейка «Калі жанчына не здаецца», апублікаванае ў пятым нумары «Нёмана». «Поўны стандартны набор да сарака гадоў: адзін развод, адно дзіця, адна кватэра, адна адзінота і мора праблем. І праблемамі нельга назваць. Хваля за хваляй», — гэта пра галоўную гераіню, супрацоўніцу паважанай фірмы, прывабную, але няўпэўненую ў сабе жанчыну. Знайсці мужчыну, побач з якім «можна моцна-моцна зажмурыцца, калі страшна» — адна мара на ўсіх жаночых персанажаў. Але гісторыя Ірыны Шумейка хутчэй не пра пошукі кахання, а пра неабходнасць быць моцнай і правільна ўспрымаць жыццё.

У творы чаргуюцца ўнутраныя маналогі маці і дачкі, «вельмі дарослай» і «не вельмі дарослай», прычым другая аказваецца больш спакойнай і ўраўнаважанай. Аўтару, які друкуецца ў «Нёмане» ўпершыню, можна дараваць зашмат негатыву напачатку і занадта аптымістычны фінал (хаця рэальныя жыццёвыя выпрабаванні, як у «Папялушцы», заўсёды наперадзе). Сталы пісьменнік, верагодна, дадаў бы больш канцэптуальных дэталей, пазбегнуў легкаважных фраз — але нібыта выпадковае прычыняецца да разумення значнага, а дзякуючы пэўнай неахайнасці маналогі атрымліваюцца жывымі і непасрэднымі.

Адзінацціклясніца, якая бегае па рэпетытарах і заядае аўсянку снікерсам, жанчына, якая спяшаецца на карпаратыў і паказвае горад замежнаму спонсару, — гераіні крыху не нашага (у сэнсе — беларускага) рамана. «Калі жанчына не здаецца» — твор, напісаны на рускай мове, а рускамоўная і беларускамоўная літаратуры — гэта розныя традыцыі, героі, праблемы і сістэмы каардынат. Але — усіх яднае «Нёман»! Жанчыны, магчыма, пазнаюць у апавяданні Ірыны Шумейка саміх сябе і адзначаць, якімі дробнымі з'яўляюцца большасць жыццёвых праблем і непрыемнасцей, а мужчыны зазірнуць у жаночую душу і яшчэ раз узгадаюць, што чакаюць ад іх прадстаўніцы «слабага» (а насамрэч — такога моцнага) полу...

Юлія ШПАКОВА

# Што сніцца аўтамеханіку Сярогу?

**Маладыя празаікі часта дэбютуюць з творамі, дзе галоўны герой вельмі падобны да іх саміх (альбо да блізкіх і добра знаёмых людзей).**

Святлана Магілёўчык, якая дэбютавала з апавяданнем «Сны» ў новым нумары «Маладосці», вырашыла пайсці даволі папулярным, а ўсё ж цікавым шляхам — пісаць пра сябе, але ў мужчынскай іпастасі, звярнуўшыся да псіхалагічных і сацыяльных праблем у рэалістычным рэчышчы.

Цяжка ўявіць, што сніцца простаму аўтамеханіку, чым ён жыве, пра што марыць. Можа падавацца, што акрамя пляшкі піва ды футбола, ніякіх захопленняў і цікавасцей. І, напэўна, ніхто з нас не можа ўявіць, што звычайны Сярога з аўтасэрвіса бездакорна валодае англійскай мовай, мае прыгожы ўэльскі акцэнт, а таксама цяжкі лёс і сапраўднае каханне.

«Сны» — твор вельмі неаднастайны. Асобныя месцы выглядаюць больш выпісанымі і літаратурнымі, а іншыя — важкімі і нават банальнымі ў сваім бытаапісальніцтве. Па пэўных частках відаць, якім дынамічным і вобразным мог быць увесь твор пры наяўнасці ці то пэўнага майстэрства, ці то натхнення, ці то больш бязлітаснай рэдактуры. Ад пачатку да сярэдзіны апавяданне доўга «разгойдваецца», але чым далей, тым больш жывымі робяцца героі, сюжэт разгортваецца — нават метафары, якія напачатку рэзалі вуха штучнасцю і прылепленасцю, робяцца ўсё больш пранікнёнымі і трапнымі.

Трэба станоўча адзначыць кампазіцыю апавядання: яна складаецца з кавалкаў сноў і рэальнасці, якія чаргуюцца ў пэўным парадку, што ў сваю чаргу набіраюць рытм, і аповед становіцца дынамічным, імклівым. Бліжэй да фіналу ўжо цяжка разабрацца, дзе сон, дзе ўспаміны, а дзе рэальнасць. Але сюррэалізм таго, што адбываецца ў творы, не замінае пазнаваць у героях сябе, сяброў і наогул людзей са звыклага паўсядзённага жыцця.

Галоўны недахоп — жанр. Тэкст можна было б распісаць на цэлую аповесць, ці, наадварот, згусціць да больш канцэнтраванай замалёўкі. Але нешта ў гэтым аповедзе сапраўды чапляе, магчыма, апісанне будзённасці таго, што віруе навокал. Святлана Магілёўчык хоць і не зусім удала, але выдае тыпізаваныя партрэты. Дадзеныя адным-двума радкамі, яны пакідаюць прастору для фантазіі і даюць магчымасць для стварэння агульных характараў герояў нашага часу — не вельмі чыстага на думкі бізнесмена, занудная прафесара, абыякавай супрацоўніцы цырульні і многіх іншых. Сам галоўны герой, часам наіўны, сумленны і непрактычны, непрыстасаваны да свету. Ён у творы не ідэалізуецца. Можна крытычна паставіцца і да яго. І гэта робіць апавяданне сапраўды цікавым.

Дар'я ЛАТЫШАВА

# З кагорты «шасцідзясятнікаў»

**Жыццё чалавека ў нейкай ступені нагадвае духоўную эстафету, якую трэба атрымаць і перадаць нашчадкам. Можа, па гэтай прычыне існуе чароўная магія лічбаў і дат, якая ўплывае на лёсы людзей розных пакаленняў, утвараючы нябачны, на першы погляд, збег абставінаў, біяграфічна-гістарычныя перапляценні.**

Пэўную гульню лічбаў можна назіраць у беларускім літаратуразнаўстве. Добра вядомы той факт, што ў 1931 годзе пастановай дзяржаўных органаў Беларусі ў сценах нядаўна створанай Беларускай акадэміі навук (1929) быў заснаваны Інстытут беларускай літаратуры. Пачынаў закладвацца трывалы падмурак для развіцця беларускай навукова-культурнай прасторы мастацкага слова.

У гэты ж час у розных кутках беларускай зямлі нараджаліся людзі, якім перадалася энергетыка пачынальнікаў культурнага адраджэння народа і дзяржавы. Гаворка тут вядзецца пра цэлую кагорту вытатных дзеячаў беларускага літаратуразнаства, якіх затым назавуць «шасцідзясятнікамі»: В. Каваленка, А. Лойка, М. Мушынскі, А. Мальдзіс, М. Арочка, Н. Гілевіч, Г. Кісялёў, А. Яскевіч, Д. Бугаёў, М. Яраш, М. Луфераў і іншыя. У 1960-х яны зрабілі крок-парыванне да новых вышынь у даследаванні нацыянальнай літаратуры.

Сярод іх пачэснае месца належыць Васілю Пракопавічу Жураўлёву, доктару філалагічных навук, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў галіне прозы імя Якуба Коласа за 2002 год, вядомаму беларускаму акадэмічнаму вучонаму ў галіне айчыннага літаратуразнаўства, які сёлета адзначае 85-годовы юбілей.

Васіль Пракопавіч нарадзіўся 27 мая 1931 года ў вёсцы Раздзел-2 Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Маленства было азмрочанае смерцю бацькі. Цягавітая мужчынская праца стала надзённым абавязкам. Яшчэ больш жорсткім выпрабаваннем для падлеткавай псіхалогіі — жыццё ў гады нямецкай акупацыі. У памяць хлопца назаўсёды ўрэзаўся эпізод, які Васіль Пракопавіч у розных варыяцыях расказваў аўтару гэтага артыкула. Аднойчы, калі ён разам з аднагодкамі выйшаў з лесу, дзе яны збіралі грыбы і ягады, насустрач з вёскі ланцугом рухаліся немцы і паліцаі. І добра, што хлопчыкі пакорліва пайшлі насустрач аблаве. Іначай іх маглі проста перастраляць.

Васіль Пракопавіч даражыць кожнай хвілінай свайго і чужога часу. У яго стасунках з людзьмі першасны, на маю думку, прынцып унутранай сабранасці, абавязковасці, адказнасці за свае дзеянні, учынкі і словы.

У 1950 годзе юнак скончыў Курманаўскую сярэднюю школу і паехаў у далёкую сталіцу. Паступае ў Мінскі педагагічны інстытут, які бліскуча заканчвае ў 1954 годзе, выявіўшы выключную прагу да ведаў. Гэта было заўважана выкладчыкамі, і яму прапанавалі вучобу ў аспірантуры пры інстытуце. Закончыўшы яе ў 1957-м, Васіль Жураўлёў запрошаны на працу ў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Тут ён будзе плённа працаваць амаль 60 год, да выхаду на пенсію.

Прыход маладога і таленавітага вучонага ў Інстытут літаратуры часткова абумоўлены тым, што распачыналася фундаментальная навуковая праца па напісанні «Гісторыі савецкай беларускай літаратуры». Патрабаваліся даследчыкі, якія мысляць крэатыўна. Паралельна з працай над «Гісторыяй» Васіль Жураўлёў друкуецца ў рэспубліканскіх і акадэмічных перыядычных выданнях. Першыя яго артыкулы выходзяць у 1957 годзе: разглядаў надзённыя пытанні па гісторыі беларускай літаратуры, стылістыцы і паэтыцы мастацкага твора. У 1958-м паспяхова абараняе кандыдацкую дысертацыю «Трылогія Якуба Коласа "На ростанях"». Удумлівы і цікаўны даследчык быў зачараваны творчай гарманізаванай стыхіяй таленту Якуба Коласа, яго ўменнем пранікнуць у глыбінныя пласты нацыянальнага характару беларуса. І больш як паўстагоддзя не выпускаў з-пад пільнай увагі ўзровень пісьменніцкага майстэрства не толькі Коласа, але і іншых самабытных пісьменнікаў.

Так, у акадэмічнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (тт. 1 — 2, 1964 — 1966) з'яўляюцца яго партрэтныя артыкулы пра творчасць Эдуарда Самуйлёнка, Янкі Маўра, Івана Мележа, а ў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2, 1969) — актыкул пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Неабходна адзначыць яшчэ і тое, што Васіль Жураўлёў, як і ўсё пакаленне «шасцідзясятнікаў», уваходзіў у навуку ў той перыяд, калі адбывалася змена парадыгмы даследавання айчыннай літаратуры. Менавіта тады канчаткова былі падарваныя пазіцыі класавага падыходу да вывучэння літаратурнага працэсу. І сёння работа Васіля Пракопавіча пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча не страціла навукова-эстэтычнай значнасці і актуальнасці.



Васіль Жураўлёў светла ўспамінаў пра напісанне даследаванняў, прысвечаных І. Мележу і А. Кулакоўскаму, пра памятныя сустрэчы з імі, якія паўплывалі на лёс літаратуразнаўцы. Застаючыся строгімі і сур'ёзнымі дарадцамі і апанентамі, добразычліва паставіліся да яго поглядаў на іх творчасць, захавалі з літаратуразнаўцам цёплыя стасункі.

У гэтым кантэксце неабходна адзначыць велізарны ўнёсак юбіляра ў працэс напісання «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (у 4-х т. і 6 кнігах; 1999 — 2015). Для гэтай работы Васіль Пракопавіч стварыў шэраг навуковых раздзелаў па творчасці беларускіх пісьменнікаў, таксама рэдагаваў трэці том фундаментальнага выдання.

Першыя тры манаграфічныя кнігі В. Жураўлёў напісаў у суаўтарстве: «Праблемы сучаснай беларускай прозы» — з П. Дзюбайлам і М. Луферавым (1967), «Беларуская савецкая проза: апавяданне і нарыс» — з С. Андраюком, А. Лысенка, Л. Голубевай (1971), «Пытанні паэтыкі» — з Я. Шпакоўскім і А. Яскевічам (1974). У іх літаратуразнавец разглядае паэтыку, стылістыку і мастацкую структуру апавядання.

Філіграннае ўменне бачыць незвычайнае ў звыклым, здольнасць знайсці ў дробнай дэталі, адзіночным вобразе ці простым сюжэце глыбінную ўзаемасувязь тэксту і падтэксту мастацкай прасторы твора — усё гэта дазваляла даследчыку паўнакроўна раскрываць праблематыку і ідэйную цэласнасць твора, садзейнічала выяўленню самых нечаканых і шматзначных граней мастацкага таленту таго ці іншага празаіка. Найчасцей у жанры «малой» прозы многія аўтары выпрацоўвалі і закладвалі асновы для выражэння важных грамадскіх, філасофскіх і эстэтычных задач. Менавіта тут ішла вызначальная першасная распрацоўка пытанняў паэтыкі мастацкай прозы.




Паступова дыяпазон навуковых інтарэсаў пашыраўся: В. Жураўлёў даследаваў амаль увесь жанрава-паэтычны спектр айчыннай літаратуры XX стагоддзя. Пералік работ за 1980 — 1990-я гады гаворыць сам за сябе: «Магчымасці рэалізму: прычыннасць і гістарызм» (з М. Тычынам) (1982), «Ідэйна-тэарэтычныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу» (1987), «Структура твора» (1978), «Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана» (1990), «На шляху духоўнага самасцвярджэння» (1995).

У 1985 годзе В. Жураўлёў паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю «Структура твора. Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм». Гэтая работа шмат у чым сумiравала вынікі папярэдніх адкрыццяў таленавітага вучонага ў пазнанні паэтыкі, этыкі, стылістыкі і эстэтыкі беларускай літаратуры XX стагоддзя. У арбіту грунтоўнага і кваліфікаванага даследавання ўведзеныя творы Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Чарота, М. Зарэцкага, В. Быкава і інш.

Адным з галоўных вынікаў навуковай дзейнасці для В. Жураўлёва стала манаграфія «У пошуках духоўных ідэалаў: на матэрыяле беларускай літаратуры XIX — XX стст.» (2000). Тут ужо прызнаны, знакаміты вучоны напоўніцу раскрывае талент аналітычнай апрацоўкі мастацкага тэксту. Ва ўсю моц праявілася яго ўменне гарманічна спалучыць вывучэнне мастацкай творчасці з гуманістычным, філасофскім пафасам чалавека і народазнаўства. За гэтае даследаванне В. Жураўлёву была прысуджаная Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа ў галіне прозы за 2002 год.

Высокай культурай, шматгранным эрудыцыяй і разумным спалучэннем розных пунктаў погляду на творчасць класіка вылучаецца кніга В. Жураўлёва «Актуальныя традыцыі: Якуб Колас у пісьменніцкім асяродку».

Апошнія два дзесяцігоддзі дзейнасці прайшлі ў напружанай інтэлектуальнай і духоўнай працы. З-пад яго пяра ў гэты час выйшлі манаграфічныя шэдэўры, знакавыя для нашага літаратуразнаўства: «Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека» (2011), «Беларуская літаратурная класіка і сучаснасць: праблемы характаралогіі» (калектыўная, 2013). Высакародны пафас, арыентаваны на абарону класічных каштоўнасцей… Сукупным выяўленнем іх для В. Жураўлёва з'яўляецца Якуб Колас.

Манаграфіі Васіля Пракопавіча напісаныя звычайна ў стрыманай форме, але вылучаюцца палемічным запалам, прынцыповасцю ў абароне класічнай літаратуры. Нічога не адвяргаючы, ён з сумленнасцю і дакладнасцю выкладае пункт гледжання апанента. І разам з тым паспяхова знаходзіць доказныя і аргументаваныя высновы на карысць сваёй думкі, так што альтэрнатыўная гіпотэза (напрыклад, «ружовы туман» С. Дубаўца) страчвае прывабнасць. Гэтая манера даследавання і палемікі паказвае адкрытасць аўтара гісторыка-культурнай перспектыве.

Пра захаваны да сёння высокі крэатыўны патэнцыял яскрава сведчыць апублікаваная манаграфія «Непадкупны суд памяці: творчасць Анатоля Кудраўца» (2014). Аддаючы даніну павагі празаіку, Васіль Пракопавіч з максімальнай выразнасцю імкнецца давесці яго ідыёму творчасці — захаванне за чалавекам права на духоўную свабоду, на аўтаномнасць і суверэннасць волі ў працэсе выбару той ці іншай жыццёвай перспектывы.

Шматлікія навуковыя манаграфіі В. Жураўлёва апошніх год шмат у чым вызначаюць актуальныя перспектывы і задачы развіцця беларускай школы літаратуразнаўства, служаць арыенцірам для будучых пакаленняў вучоных.

Нельга не адзначыць уклад Васіля Пракопавіча ў фарміраванні навукова-літаратуразнаўчых кадраў краіны. Так, на працягу больш як двух дзесяцігоддзяў навуковец з'яўляўся намеснікам старшыні спецыялізаванага навуковага савета па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый у галіне літаратуразнаўства. Яго добразычлівы клопат пра лёс будучых літаратуразнаўцаў вядомы не аднаму пакаленню айчынных даследчыкаў. Доўгі час Васіль Пракопавіч узначальваў адзін з ключавых аддзелаў у Інстытуце літаратуразнаўства імя Я. Купалы НАН Беларусі, стварыўшы ў ім надзвычай спрыяльную атмасферу пульсацыі крэатыўна-навуковай думкі, таварыскасці і ўзаемападтрымкі. Супрацоўнікі аддзела і цяпер лічаць той час адным з самых плённых і памятных перыядаў у іх творчым сталенні.

**Ігар ШАЛАДОНАЎ**



Віктар ГАРДЗЕЙ

## Пераслед

*Хадзіць па вадзе, як пасуху,*
*Ці ж мала нам ліха і бед?*
*Стрываць можна роспач і скруху,*
*Ды мучыць душу пераслед…*

*Наўрад ці памогуць замовы,*
*І спалены ў моры масты.*
*— Глядзі, ён жывы і здаровы,*
*Дый куфаль яго не пусты?!*

*Прыкідвацца дурнем не буду —*
*Мне дадзена многа замоў*
*Ад звягу, ад сценю і спуду,*
*І тых, што ўлагоджваюць кроў.*

*Ратоўца мая баба Марка*
*Умела адрозніць, хто хлус,*
*І лепшая ў свеце знахарка*
*Балючы зашэптвае ўкус:*

*«Змяя Шыпуха, бойся майго духа*
*да мелкай вады, поснай Каляды».*

*Ну, вось і няма пераследу,*
*Няўцямна, як будзе далей?*
*На мора, аднак, не паеду —*
*Айчыны брады мне мілей.*

## На ростанях

*Былая жыцця каляіны*
*Вяртаюць ні з чым ці з удачай.*
*Апоўначы рогат савіны —*
*Саву штосьці смешыць, няйначай.*

*Гадоў цуг крылаты над намі,*
*Не вернецца ён да вытоку.*
*Брыдзеш нацянькі ці кругамі —*
*Заўжды ад галоўнага збоку.*

*Цябе не прымаюць дубровы,*
*Што спляжыў ты дзіка і груба,*
*Табе не баліць шум вясковы —*
*Наўсцяж аніводнага зруба.*

*Ні першы, ні лепшы ў пазнанні —*
*Не свеціць чалу дыядэма,*
*Патрапіць у міф ці ў паданні?*
*Дык ты ж не герой і не дэман.*

*На ростанях з птушкай над домам,*
*З крыжамі і ценямі продкаў,*
*Між пройдзеным і невядомым*
*Ёсць месца сустрэч аднагодкаў.*

## Нядзельныя госці

**1**

*Самотны дзень з мізэрнаю надзеяй:*
*Мяхі старыя, але ў іх даўно*
*Набрала моц — як дар перад нядзеляй —*
*Па-маладому ярае віно.*

*Адкуль яно? За морам, цераз горы*
*Шляхоў няма — каменне ды пясок.*
*У бочках там палопаюць уторы,*
*Пакуль адбродзіць вінаградны сок.*

*Мяне там не сурочылі б гетэры,*
*Іх жар і блуд, урэшце, не па мне.*
*Адтуль, з-за гор, і вольны дух містэрый*
*Абагаўляе ісціну ў віне.*

**2**

*Няма дажджу сягоння, слава богу,*
*А тут на ютрань звоняць у царкве.*
*Жыць весялей, калі цераз дарогу*
*Раса яшчэ іскрыцца на траве.*

*Люблю нядзелю для сур'ёзнай справы,*
*Чакаць, напрыклад, кліканых гасцей.*
*Сквірчыць, шыпіць, і — водар*
*моцнай кавы,*
*А пах індычкі смажанай гусцей.*

*Багатым быць павінен стол бясседны,*
*Дарэчы, я не лепшы хлебасол.*
*Сваім гасцям настрой неадпаведны,*
*А хлеб на стол, тады і стол — прастол!*

*На покуці сам гаспадар банкету,*
*А злева, справа ўсе, каго люблю.*
*Мурлыка-кот як знаўца этыкету,*
*Хвастом не праз вані мне хрусталю!*

**3**

*Стаміўся я, шкада, што не ад плуга:*
*Цябе сагнуў і круціць час ліхі.*
*Вазьмі фужэр, налі паўней для друга —*
*Не апусцеюць сцёртыя мяхі.*

*Ні почуту пра еўра і даляры,*
*Дукат ліцвінаў вабны і ў цане,*
*А боству Сонца свежыя ахвяры*
*Віном крапляла ў грэцкай старане.*

*Мурлыка-кот! Фужэр ужо разбіты.*
*Во арыштант, калі ён толькі змог?*
*Але ж і друг пабудзе знакамітым:*
*Налі яму з вярхом у тураў рог!*

**4**

*Зваліўся першым рыжы кот Мурлыка —*
*Заняў канапу і спакою рад.*
*І злева хтосьці ўжо не вяжа лыка,*
*І справа хтось гарлае неўпапад.*

*Працяўным голас і самому стане —*
*Нясі, дзяцюк, язык да каваля,*
*І зноў парадак будзе ў нотным стане,*
*І нота «рэ» не ляпне ноту «ля».*

*Фартух не трэба. Скончылася вахта.*
*Чарпак, як рыхтык зброя, на вісу.*
*— Ну, што цяпер, постельцынская*
*шляхта?*
*Камсу з картопляй? — Можна і камсу.*

*Замілавання наплываюць хвалі.*
*Ад той індычкі — костачкі адны.*
*Яшчэ б пілі, і елі, і спявалі,*
*Ды на вячэрню ўжо завуць званы.*

**5**

*Прыдатнае на гульбы і вяселлі,*
*І для сямейных шмат якіх прычын,*
*Тваё віно не з манастырскай келлі:*
*Мяхі раздзьмуты — будзе і пачын.*

*Канечне, вінаград раёнаў горных*
*Праславіў і грузін, і малдаван,*
*Ды не слабей напой з парэчак чорных —*
*Мяхі старыя не ўвядуць у зман.*

*Так і жыву, з душой не маю зладу,*
*Урэшце, добра, не для свят жыву.*
*Містэрыю пішу ці буфанаду —*
*Пастаўлена ўсё з ног на галаву.*

## У фарбах світальных

*Начныя дзівосы ля клуба —*
*Як водгук юначай пары.*
*Дзяўчатам і радасць, і згуба —*
*Іх выселкі і хутары.*

*Натоўп разагрэты, бы ў жніва,*
*З расчыненых насцеж дзвярэй,*
*І вочы ўжо шныраць блудліва:*
*Дзе Стась? Дзе Ігнась? Дзе Андрэй?*

*Праводзяць у змрок паасобку,*
*А там і каханне ўзасмок.*
*На сцежках дзявочых, на ўзлобку,*
*Самотніц адсочвае цмок.*

*Забегчы не проста дадому*
*Праз белы бярэзнік, паўз плёс.*
*Мядзведзь, мой сябрук з буралому,*
*Згроб Машу ў кашэль і — панёс.*

*Тут дзікія гусі ляцелі,*
*Глядзіш, падхапілі наўзгад*
*Дзяўчат, што ад шчасця памлелі, —*
*Аднеслі, як ёсць, на пасад.*

*Ля хутара ў фарбах світальных*
*Мільгнеціца дзяўчо, равучы,*
*І блізка гармонік банальны*
*Усхліпне ў кагосьці на плячы.*

## Табар

*Пад гару і коням слаба:*
*Рып кібітак і вазоў.*
*Скуль узяўся гэты табар?*
*Ці не з неба ён сышоў?*

*Табар стаў. Шалее водшыб.*
*Вэрхал, крыкі на гары.*
*Ці старэйшы, ці малодшы,*
*Вабяць зыркія кастры.*

*Не пайду за цыганамі*
*Па сцяжынах цераз гаць:*
*Піць прымусяць вечарамі*
*І цыганак іх кахаць.*

*Што, барон, узяў за моду?*
*Нож, як меч, на паясе!*
*Нінка — дзёру, Манька — ходу…*
*Уцякалі б, ды не ўсе.*

*Можа, пушкінскі Алека*
*З Бесарабіі дапяў?*
*Мроі болей за паўвека —*
*Табар зняўся і прапаў.*

*Вось абрыс на плямах вінных*
*Захаваўся з даўніны.*
*Што ж я гэтак пра нявінных?*
*Залілі не цыганы.*

*Стой у роздуме цвярозa —*
*Чырвань вечара не піць.*
*Ноч усю ў Сузор'і Воза*
*Табар той рыпіць, рыпіць…*

---





## Жыву я…

*Жыву я, дзе славуты Колас*
*У вершах край мой апяваў.*
*Лагодны, праніклівы голас*
*Шаноўнай Арабей гучаў.*

*Дзе Крапівы дасціпным словам*
*Пяклі уедліва радкі,*
*І тут ахоўнікам-анёлам*
*Паўлюк Трус будзе на вякі.*

*Легендамі праменяць ночы*
*Маёй наднёманскай зямлі,*
*А прыгажосць, куды ні зборчу,*
*Куды б сцяжыны ні вялі:*

*На луг, дзе шоўкам леглі травы*
*Пад спеў птушыных галасоў,*
*Лясоў адвечныя дубравы*
*Наведаць клічуць зноў і зноў.*

*Хвалюе поле збажыною,*
*Цвіце ў жыце васілёк.*
*Мой край, я дыхаю табою,*
*З адметных слоў пляту вянок.*

## На восеньскай хвалі

*Вецер golle хістае,*
*Сячэ дождж касы.*
*Я імкнуся туды,*
*Дзе цвітуць верасы.*
*Там сцяжынка лягла*
*У бярозавы гай,*
*А грыбоў нарасло —*
*Колькі хочаш збірай.*
*Дзе пылае кастром*
*Арабінавы ўбор,*
*Сойкі, нібы пляткаркі,*
*Там ладзяць свой спор.*
*Я імкнуся заўжды,*



Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

*Каб душой адпачыць,*
*Пад сасновы шацёр,*
*Дзе крынічка бруіць.*

## Родная мова

*Наша родная мова —*
*То матульчына песня.*
*Яе кожнае слова —*
*Цёплы промнік прадвесні.*

*Роднай мовы гучанне*
*Праз валошкі прашыта,*
*Праз сівыя паданні*
*Са сваім каларытам.*

*І смяецца, і плача*
*Мілагучная мова.*
*Бы вытак, не інакш,*
*Тчэцца кожнае слова.*

*У вяках самавіта,*
*Як крынічка, ліецца,*
*У вясёлку спавіта,*
*Беларускай завецца.*

## Вось бы вярнуцца…

*Успамін маленства*
*Сціплы, ды жаданы:*
*Зрэбная кашуля,*
*Пояс саматканы,*
*Лямпачка-газоўка,*
*Пах духмяны хлеба,*
*Рэдкая абноўка,*
*Дрэвы аж да неба.*
*Цацкі не прасіла,*
*Хоць была малышка,*
*А была жаданай*
*У малюнках кніжка.*
*…Трызніцца парою*
*Той далёкі вечар.*
*Я ад мамы ўпотай*
*З кніжкай ладжу стрэчу.*
*Літары старанна*
*У склады кладуцца…*
*Вось бы мне ў той вечар*
*Хоць на міг вярнуцца.*

## Край блаславёны

*Зямля Купалы,*
*Коласа зямля*
*На таленты*
*Багатая бясконца.*
*Нясе тут Нёман*
*Воды спакваля,*
*Ласкавае*
*Тут сагравае сонца.*
*І кожны вобраз*
*Значны у жыцці,*
*Легендамі*
*Авеяны мясціны.*
*У цэлым свеце*
*Болей не знайсці*
*Такой на дзіва шчырае*
*Краіны.*



Зміцер АРЦЮХ

# Кітайскі хлеб

Суботнім зімова-вясновым адвячоркам, калі ў сталіцы ўжо гарэлі ліхтары і Трактаразаводскі ўніверсам меўся зачыніцца, Валеру захацелася купіць маньтоў да кавы. Такія кітайскія паравыя булачкі нядаўна сталі гатаваць у кулінарыі супермаркета. А Валера толькі што напісаў верш, таму карцела адзначыць гэтую падзею салодкім.

— А раптам муза зноў наведаецца. Трэба ж сустрэць. Трэба не заснуць! — жартаўліва казаў сабе, апранаючы старэнькую нямодную куртку.

Здаўшы ключ вахцёру, бразнуўшы мурзатымі інтэрнацкімі дзвярыма, выйшаў на вуліцу. Снегу амаль не было. Толькі нейкая мёрзлая паўмакрота начэплівалася на густыя бровы, казытліва-пяшчотна сплывала на доўгія чорныя вейкі. Гэта чамусьці нагадала вясковую хату, бацькоў, меншых сясцёр і брата. Захацелася туды. Але там і так бедна жывуць. Яму трэба вучыцца, выбівацца ў людзі.

Каб адагнаць думкі, узгадаў нядаўна напісаны верш. Хаця яго можна было і не ўзгадваць. Ён і так беспрастанку круціўся ў галаве, як усё нованапісанае:

*Мне вецер настуквае вершы*
*Па шыбе дрыжачымі пальцамі.*
*Пытае:*
*— Чаму ты так смешна*
*Радкі называеш «кітайцамі»?*
*— Ну, вер… Шы ж — анёльскія птушкі —*
*Ляцяць на зямлю з Паднябеснай.*
*Паэты — птушыныя служкі —*
*Павінны іх людзям данесці.*

Яшчэ на парозе ўгледзеў двух маладых мужчын. Першы, абняўшы таполю, якая галінамі даставала дах чырвонага піціпавярховага будынка, пастаяўшы, зашпіліў маланку брудных сініх джынсаў і подбегам кінуўся даганяць сябра са словамі: «Ігар, пачакай».

Валера нетаропка крочыў за імі. Думаў пра вучобу. Марыў хутчэй выбрацца з беднага інтэрната і гэтага раёна, купіць кватэру ў цэнтры, стварыць моцную сям'ю — і зажыць нармальным чалавечым жыццём.

— Гэй, малыш, слыш, дай пяць касарэй, — пачуўся непрыемны голас хлопца гадоў дваццаці пяці. Пад святлом ліхтара Валера разгледзеў ягоны памяты твар і заклеены пластырам нос. Другому хлопцу было крыху больш. А магчыма, гадоў дабаўляла нголеная рыжая барада. Сябрукі былі нападпітку, а Валера з дзяцінства не любіў п'яных.

— Я студэнт. Толькі паступіў. Не жыву з бацькамі. Трэба неяк да стыпендыі дацягнуць, хлеба купіць, — насцярожыўся юнак.

— Гані кашалёк і не выпендрывайся. Гэта з такім мяшком ён па хлеб выйшаў… — амбал з нголеным тварам мацюкнуўся.

Ніхто не дапаможа. Спадзеючыся на літасць рабаўнікоў, стаў прасіць, каб не адбіралі апошнія паўсотні.

— Хопіць скавытаць, — засмяяўся Ігар. — Мы з табой у забаўлянкі гуляць не збіраемся. Юрык, прыгэжам яго? — нголены здаравяк кідаўся да хлопца, выстаўляючы пуза і доўгія спартыўныя ногі.

— Не спяшы, Барыкін. Ён і сам дасць. Праўда, малышок?.. Ты быў у арміі?

— Не, я вучуся.

— Сякеш, Ігар, ён не служыў. А мы былі, малыш. Як цябе завуць?

— Алег, — Валеру чамусьці не захацелася казаць сваё сапраўднае імя. Назваў імя дужэйшага хлопца, з якім жыў у адным пакоі. Праўда, таго зараз не было ў Мінску — паехаў наведваць бацькоў.

— Ах, Алег, Алег. Шкада, што ты не наш цёзка. Але гэта нічога не змяніла б. Зразумей, на тваім месцы мог бы быць любы другі. Ну, табе не пашанцавала, разумееш?! Ты — герой, бо за другога пакутуеш, — Юра асцярожна схапіў яго за горла.

— Што ты з ім цацкаешся? — незадаволены Ігар накіраваў руку да Валеравай шыі. Вырваў верхні гузік з чырвонай кашулі, халоднымі рукамі правёў па скуры: — Слухай, давай аднясём яго далей.

Пацягнулі за ўніверсам. А людзі ішлі. У кватэрах гарэла святло, і нікому не было справы да таго, что робіцца пад бокам. Нават міліцыя на гэты час заснула…

— Чаго равеш, дуралей? Хай толькі міліцыя прыйдзе, то ты жывым не застанешся. Мне не страшна. Сядзеў раз, пасяджу і другі!

— Давай сюды! — Ігар выхапіў кашалёк і стаў разглядаць студэнцкі білет, праязны, скарыстаныя талоны… Потым адвярнуўся і выняў дзве дваццаткі, схаваў іх у кішэню і злосна спытаў:

— Дзе грошы? Казаў, што там паўсотні ёсць, — сціснуўшы руку ў кулак, бандыт намерыўся стукнуць, але Юра затрымаў:

— Я тут галоўны. Не чапай…

Узгарэлася спрэчка. Валера скарыстаўся момантам і кінуўся наўцёкі.

— Трымай яго!!!

Валера ведаў, што ногі выратуюць. На школьных спаборніцтвах ён заўсёды займаў прызавыя месцы. А тут блізка. Дабяжыць, схаваецца — і ўсё забудзецца. Але не. На павароце каля прафесійнага вучылішча хлопец спатыкнуўся… Моцна параніў руку, пайшла кроў.

«Я паспею. Трэба хутчэй падняцца і бегчы. Уцякаць», — думкі несліся хутчэй, чым ён сам.

— Стой, дубіна! — схапіў яго Ігар, некалькі разоў стукнуўшы пад жывот. — У міліцыю хацеў ісці? Мы ж табе абяцалі… — падхапілі юнака, бы пушынку, і зноў занеслі за ўніверсам…

— Ты ад каго ўцякаў? — пацікавіўся Юра.

Не атрымаўшы адказу, з дапамогай Барыкіна прачытаў нудную лекцыю, а калі лексічны запас быў вычарпаны, закончыў словамі:

— Стой тут, пакуль мы не знікнем. Потым можаш ісці ў сваю камуну ці па хлеб. У цябе ёсць дзясятка, можа, які кітайскі купіш. І толькі паспрабуй каму-небудзь пікнуць. Пабачыш, што будзе. Я табе абяцаў…

І пайшлі. Валера быў так напалоханы, што бегчы не мог. У галаве — незразумелая блытаніна. Але чамусьці не злаваўся на іх. Шкадаваў. П'юць, бо няма працы. Бедныя іх бацькі. А якія ў іх могуць быць сем'і?..

Стаяў нядоўга, пакуль не пачуў знаёмы голас. Абярнуўся. Да яго ішоў Юра:

— Не хапае, друг. Зараз мы пойдзем да цябе, і ты вынесеш яшчэ дваццарык. О'кей?

Валера маўчаў.

— Ігарок, ты пачакай тут, я хутка. Толькі праўду яго да куратніка, — Юра абняў малога і павёў да інтэрната. Нешта гаварыў пра свой лёс, абяцаў, што больш ніхто не зачэпіць, калі скажа, што знаёмы з Юрам…

— Ты жывеш на Трактарным. А за жыццё трэба плаціць. Калі хочаш жыць, то павінен мець грошы. А як ты іх дастанеш — нікога не цікавіць. Хай мамка думае ці сам думай. Я ў сераду паеду з Мінска. Да гэтага дня аддам табе гэтыя дваццаць тысяч. Я пазычаю іх у цябе. Зразумеў, малышок?

Валера нічога не хацеў адказваць. Нешта шаптаў сабе пад нос, паслухмяна падпарадкоўваючыся загадам. Не хацелася ні той серады, ні тых салодкіх кітайскіх булак... Далі б лепш магчымасць пабыць аднаму…

…Мінулі гады.

Валера з таго часу ні разу не быў у Трактаразаводскім раёне. Не было патрэбы. Цяпер ён жыў у цэнтры, меў добрую працу… Амаль усё, пра што марыў, здзейснілася. Клопаты мінулага не турбавалі, але сёння, калі праязджаў знаёмай вуліцай, узгадалася жыццё ў інтэрнаце.

Спыніўшыся на святлафоры, зірнуў у бок супермаркета. Там спрачалася групка п'яных мужыкоў. Яны так моцна сварыліся, што міліцыя не прамінула падысці. Валера задумаўся: «Чаму мінчане, у якіх ёсць кватэры, ёсць магчымасці для развіцця, жывуць так?»

Думкі перапыніў званок:

— Валерый Паўлавіч, тут даслалі важны ліст з Пекіна. Мы ўжо яго пераклалі, і я скінула на ваш электронны адрас.

— Дзякую, Марына, гляну.

Святлафор пераключыўся — і Валера націснуў на газ…

# Завочнае адпяванне

Паўтара года таму судмедэксперты паведамілі родным: «Асфіксія… Ён павесіўся…» Як і чаму Мішаў дзядзька вырашыў прыпыніць жыццёвы шлях, ніхто ўжо не даведаецца. Забыліся пра тую трагедыю.

Толькі вось нядаўна Мішу пачала сніцца бабуля-нябожчыца, якая ўжо гадоў сем як памерла. Разварушыла памяць пра дзядзьку. І, як казалі суседзі, таксама не сваёй смерцю — атруцілася воцатам, перамяшаным з гарэлкай. Знешне гэтага відно не было, а ў пасведчанні аб смерці медыкі напісалі: «артэрыяльная гіпертэнзія». Бабулю адпявалі ў царкве...

Праўда, у Мішаву галаву часта забіралася думка, што бабуля сапраўды магла такое ўчыніць: жыла адна, дзеці наведваліся рэдка. Хаця як мінімум раз у месяц да яе заходзіў сын — патрабаваў грошай на выпіўку. Калі не давала, біў.

У снах бабуля казала ўнуку, што трэба, каб бацюшка і па Язэпу справіў адпяванне. Міша дзівіўся: адкуль яна ведае пра смерць дзядзькі?

«Не, снам верыць нельга», — пераконваў сябе юнак і спрабаваў не думаць пра памерлых. Але не атрымлівалася. Яны часта сніліся яму з рознымі просьбамі і нават патрабаваннямі. Тады Міша ішоў у царкву і падаваў запіскі аб іх упакаенні.

Цяпер сітуацыя была складаней. За самазабойцаў жа нельга маліцца ў царкве…

Хлопец пайшоў у епархіяльнае ўпраўленне, каб узяць блаславенне на завочнае адпяванне. Па дарозе ўзгадаў той дзень, калі ў хаце бацькоў зазваніў тэлефон і голас з трубкі стаў патрабаваць хутчэй забраць цела з морга. Міліцыя і медыкі сапраўды доўга шукалі тых, хто б мог пахаваць нябожчыка. Жонка і дзеці ў Язэпа былі, але шмат гадоў таму ён кінуў іх недзе ў Расіі і вярнуўся да маці ў Беларусь. Калі ж памерла маці, сувязі з імі былі страчаны канчаткова.

Пажыўшы ў роднай вёсцы, Язэп пайшоў бадзяцца па свеце. Жыў то там, то сям, пакуль не прысватаўся да адной вясковай удавы. Дачакаўся пенсіі. Здавалася, жыві ды радуйся, але радасці не было. Язэп пачаў моцна выпіваць. Хутчэй за ўсё таму, што так і не знайшоў сэнс жыцця.

Калі сужыцель пачаў абкрадаць хату, жанчына выгнала яго на вуліцу. Так Язэп апынуўся ў Доме састарэлых, а падчас чарговага запою вырашыў адмовіцца ад Боскага дару — дару жыцця…

У епархіяльнае ўпраўленне Міша не спяшаўся, ведаючы кароткую дарогу. Але ў тым месцы ішла будоўля. Глянуўшы на гадзіннік, хлопец зразумеў, што спазняецца. Крыху прайшоўшы, юнак убачыў прыступкі, якія вялі да офісаў, гандлёвых цэнтраў і мітуслівага ранейшага праспекта. Доўга не думаючы, Міша вырашыў скокнуць уніз. Упаў на спіну. А падняўшыся, зразумеў, што знізу ўсё відаць не так, як зверху. Рознай велічыні катлаваны. Людзі ў брудной рабочай вопратцы капаюцца ў іх, пераносяць трубы, перасыпаюць з месца на месца пясок, кураць, сварацца і дыхаюць выхлапнымі газамі, табачным дымам, пылам… Напалоханы, Міша ішоў праз гэты аб'ект да вуліцы Вызвалення, дзе знаходзілася епархіяльнае ўпраўленне.

Працаўнікі былі заняты сваімі справамі, і на хлопца ніхто не звяртаў увагі. Мішу гэта крыху супакоіла, але, падышоўшы да прахадной, хлопец зноў запанікаваў: «Тут жа ахова. Як мне выйсці без пропуску?»

На прахадной наведвальніка запыніў вартаўнік:

— А вы хто? Што тут робіце? Да каго прыходзілі, каго шукалі? Як наогул прайшлі сюды?

— Я ўжо выходжу, — ціха сказаў Міша, зірнуўшы ў вочы субяседніка.

— Так рана да нас не прыходзяць.

— Прабачце, я памыліўся.

Ахоўнік паціснуў плячыма, але затрымліваць Мішу не стаў. Аднак блаславення той усё ж не атрымаў. Дзяжурны бацюшка растлумачыў, што каб Царква малілася за самазабойцу, патрэбна даведка аб псіхічным захворванні памерлага. Такой даведкі ў хлопца не было.

— Мы не адмаўляемся маліцца, — гаварыў святар. — Мы проста адыходзім убок, аддаючы лёс нябожчыка ў рукі Божыя. Бог лепш ведае, пры якіх жыццёвых абставінах памёр чалавек, і толькі Яму вырашаць, што рабіць з душой далей.

— А як жа тады маліцца за самазабойцаў? — не супакойваўся Міша.

— Акрамя хатняй келейнай малітвы і канона, які чытаецца па блаславенні вашага духаўніка, аблегчыць загробныя пакуты памерлага можа міласціна і дабрачыннасць. Радня павінна звярнуць увагу на сваё жыццё, павінна імкнуцца змяніць яго да лепшага, спрабаваць наблізіцца да Бога. А гэта магчыма праз рэгулярныя паходы на службы. Трэба спавядацца, прычашчацца і, вядома ж, верыць, што Гасподзь чуе і задавольвае просьбы. Можна маліцца і сваімі словамі.

— Дзякую, бацюшка, за падказку. Я яшчэ хацеў запытацца. Кажуць, што можна птушак карміць, і яны сваімі паклонамі будуць маліцца за памерлага…

— Ну ніхто ж не забараняе карміць птушак, — усміхнуўся святар. — Маліцеся, і Бог не пакіне. Ён перамог смерць, і Ён усё можа.

Епархіяльнае ўпраўленне Міша пакідаў узрадаваны. Цяпер ён быў упэўнены, што Бог можа дапамагчы нават у самай невырашальнай сітуацыі.

# Правінцыйныя музы паэтычнай багемы:

## старонкі жыцця Соф'і Шамардзіной




**Яна была добра вядомая ў літаратурных колах Пецярбурга, кантактавала са многімі знакамітымі пісьменнікамі і паэтамі пачатку дваццатага стагоддзя. Яе кахалі і прысвячалі вершы. Ігар Северанін, «кароль паэтаў» перыяду Сярэбранага веку, зрабіў яе гераіняй сваёй аўтабіяграфічнай паэмы «Колокола собора чувств». Разам з футурыстамі яна выступала ў якасці артысткі (і надзвычай паспяхова) у паэтычных канцэртах у паўднёвых гарадах Расіі пад імем Эсклармонды Арлеанскай. «У меня есть Сонечка-сестра», — казаў пра яе вялікі трыбун Уладзімір Маякоўскі, блізкі сябар і адзін з адданых прыхільнікаў. Пасля бурнай «паэтычнай» маладосці яе чакала не менш насычаная савецкая сталасць: шлюб са старшынёй Саўнаркама БССР, буйныя адміністрацыйныя пасады ў культурна-асветніцкіх структурах, 17 гадоў у сталінскіх лагерах... Супярэчліваму жыццю Соф'і Шамардзіной — першай у свеце артысткі-футурысткі, якая нарадзілася ў Мінску, але з лёгкасцю стала «сваёй» у літаратурнай супольнасці Пецярбурга, — прысвечана новая кніга «Правінцыялка», якая толькі што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Пра гэтае выданне мы пагаварылі з яго аўтарам Георгіем ЗАХАРАВЫМ.**

**— Георгій Валадаравіч, як увогуле з'явілася ідэя аповесці «Правінцыялка»?**

— Калі я вывучаў успаміны літаратараў першай паловы дваццатага стагоддзя, натраплял... натрапкаў цікавую інфармацыю пра Соф'ю Шамардзіну, дзяўчыну з Мінска, у якую былі закаханы Уладзімір Маякоўскі, Ігар Северанін, Карней Чукоўскі — выбітныя культурныя асобы тых часоў. Северанін, гэты «изысканный грезер» Сярэбранага веку, адзін з маіх самых любімых паэтаў. Мне падалося, што чытачам будзе цікава даведацца пра гісторыю даволі заблытаных узаемаадносін, якія нараджаліся на тых самых Мінскіх вуліцах, дзе мы з вамі ходзім і сёння, толькі крыху больш за стагоддзе таму. Да таго ж, мне заўсёды хацелася быць гісторыкам, хоць я і выбраў юрыдычную адукацыю. Мінулае Мінска заўсёды вабіла. Ёсць такая цудоўная кніга Захара Шыбекі «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада», у ёй падрабязна распісана, дзе ў горадзе што размяшчалася: установы культуры, гасцініцы, рэстараны, кінатэатры, крамы... Натхніўшыся гэтым выданнем і некаторымі іншымі крыніцамі, якія апісваюць жыццё правінцыйнага Мінска тых часоў, дэталёва вывучыўшы старадаўнія каталогі і газеты, даведнікі Мінска пачатку стагоддзя, я падумаў: чаму б не звязаць гісторыю ўзаемаадносін Соф'і і знакамітых паэтаў і гісторыю Мінска? І адлюстраваць гэта ўсё ў асобнай кнізе.

**— Значыць, і любоўная лінія, і дэталі навакольнага асяроддзя — усё гэта адпавядае рэчаіснасці?**

— Дакладна. Пацвярджэнне таму вы можаце знайсці і ва ўспамінах сучаснікаў галоўных герояў, і ва ўспамінах, якія пакінула сама Соф'я Шамардзіна. Ускосныя спасылкі могуць трапіцца і ў літаратурнай творчасці Маякоўскага і Северяніна. Што ж датычыцца дэталяў, звязаных з Мінскам, тут таксама ўсё праўдзіва. Кінатэатр «Ілюзіён», кандытарская «Канстанцінопальская», тэатральная зала «Парыж», вуліцы Захар'еўская, Губернатарская і Падгорная, Аляксандраўскі сквер — вось ён, Мінск, пачатку дваццатага стагоддзя... Той час і ў Еўропе, і ў Расійскай імперыі быў перыядам росквіту ў грамадскім, культурным жыцці. Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, навуковыя суполкі, спартыўныя таварыствы, пра якія ідзе гаворка ў аповесці, аб'ядноўвалі інтэлігенцыю горада, яе лепшых прадстаўнікоў.

Але не ўсе героі аповесці насамрэч існавалі. Так, Алега Рокатава, паспяховага інжынера, які прыехаў у Мінск заключаць выгадныя кантракты на ўстаноўку абсталявання і быў зачараваны вытанчанай прыгажосцю правінцыйных гімназісткі, я прыдумаў, как паказаць бурнае развіццё прамысловасці, гандлю, спорту ў тыя часы. Гімназіст Лёва Торскі, гарадскі «аўтарытэт» Давід Гінзбург, арыстакратка Умы-Рука-Запольская, аптэкар Каварскі, пракурор Вастрасаблін — гэтыя персанажы падкрэсліваюць шматнацыянальнасць Мінска тых гадоў. А сяброўка галоўнай гераіні Юля з'явілася на старонках аповесці, каб сваёй сціпласцю кампенсаваць Соф'іну празмерную, так бы мовіць, незакамплексаванасць.

**— Ці правільна я разумею: ваша стаўленне да Соф'і не назавеш станоўчым?**

— Як вам сказаць... Мне падаецца, што Соф'я была занадта напорыстай і прамалінейнай, але заўсёды ведала, чаго хоча. Яна з тых людзей, якіх прыцягвае тое, што найбольш актуальна, «модна». Былі «на хвалі» паэты — Соф'я «пералятала» ад аднаго таленту да іншага. А падчас рэвалюцыі былая футурыстка не толькі актыўна ўлілася ў бальшавіцкае асяроддзе, але і сама стала заўзятай бальшавічкай... Вядома, не мне яе судзіць, але выдуманая сяброўка Юля мне падабаецца значна больш.

**— У сваёй кнізе «Чорнае і белае» вы таксама звяртаецеся да падзей мінулага, хай і не настолькі далёкага (у гэтым выданні гаворка ідзе пра будні работнікаў пракуратуры 70 — 80-х гадоў дваццатага стагоддзя). Чаму вас прыцягваюць падзеі «даўно мінулых дзён», а не сучаснасць?**

— Як аўтар я адчуваю сябе больш «утульна» ў гісторыі, чым у нейкіх сучасных падзеях. Напэўна, мне не хапае душэўнасці, уласцівай мінуламу, ва ўсякім разе, у маім уяўленні. Не хапае аўтэнтычных будынкаў пачатку стагоддзя, з духам таго часу... Я нарадзіўся і вырас у цэнтры Мінска, вучыўся ў школе № 2, і якраз насупраць цяперашняга Тэатра юнага гледача быў наш школьны фруктовы сад. Вось гэтага не хапае... Канечне, я разумею, што цяжка захаваць у цэнтры мегаполіса сад. Таму, калі ўжо не засталося гэтых часцінак мінулага, захацелася «рэканструяваць» Мінск праз кнігі, «ажывіць» яго. І надалей хочацца.

**— Значыць, аповесць «Правінцыялка» — не апошняя ваша кніга на гістарычную тэму?**

— Спадзяюся, не апошняя. Я сабраў цікавы матэрыял пра работу Мінскага крымінальнага вышуку часоў НЭПа. Як і ў «Правінцыялцы», дакументальная канва тут будзе змешана з выдумкай. Добра было б паспець напісаць кнігу да наступнага года — зрабіць гэткі своеасаблівы падарунак мінскай міліцыі, якая ў 2017 годзе будзе адзначаць 100-гадовы юбілей.

**Алена КАРПЕНКА**

*З пошты «ЛіМа»*

# Эліза Ажэшка — мяцежная душа

**Гэта імя залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю сусветнай літаратуры, творы перакладзеныя на 20 моў свету, у тым ліку на кітайскую і японскую. Эліза Ажэшка двойчы вылучалася на Нобелеўскую прэмію па літаратуры.**

Літаратурная спадчына творцы складае больш як 50 тамоў прозы, 10 тамоў лістоў. Узгадаць пра яе варта яшчэ і таму, што 6 чэрвеня 2016 года споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння сусветна вядомай пісьменніцы.

Памятаючы і шануючы Элізу Ажэшку жыхары Мастоўскага раёна, таму што жыццё і творчасць Элізы Ажэшкі цесна звязана з нашым краем. Многія яе творы пабудаваны на матэрыялах жыцця вёсак Лунна, Паніжаны, Глядавічы, Багатырэвічы і інш.

Мастоўская раённая бібліятэка арганізавала і правяла літаратурнае свята «Эліза Ажэшка — мяцежная душа». Сустракала гасцей і ўдзельнікаў гераіня свята — Эліза Ажэшка, ролю якой выканала супрацоўніца бібліятэкі. У ходзе мерапрыемства бібліятэкары даступна і займальна расказалі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніцы, дапамаглі прысутным уявіць непаўторныя рысы асобы Э. Ажэшкі.




*Нібыта сама пісьменніца натхняла свята ў Мастоўскім раёне.*

У сваіх творах пісьменніца звярталася да праблемы жаночай эмансіпацыі. Таксама яна вельмі любіла дзяцей, якія цягнуліся да яе, як да сонейка, асабліва сіроты і беспрытульныя. Папоўніць багаж ведаў пра пісьменніцу можна было з дапамогай літаратуры, размешчанай на кніжнай выстаўцы «Простаму люду любоў аддала...». Акрамя кніг і артыкулаў пра жыццё і дзейнасць Э. Ажэшкі, у экспазіцыі былі прадстаўлены копіі тытульных старонак прыжыццёвых выданняў пісьменніцы і архіўных дакументаў з фондаў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага (домік Элізы Ажэшкі).

На аўтарскай фотавыстаўцы «Зямля Мастоўская яе натхняла...» былі прадстаўлены фотаздымкі мастака-афарміцеля раённай бібліятэкі Галіны Васілеўскай, зробленыя па мясцінах, якія былі звязаны з імем Элізы Ажэшкі. Гасцямі мерапрыемства сталі гарадзенскія паэты, члены Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і мясцовыя творцы. Цікава і займальна прайшла сустрэча юных чытачоў з дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай.

У гонар Элізы Ажэшкі прагучалі вершы на беларускай, рускай і польскай мовах. Аркадзь Гартунг, філолаг, член гродзенскага грамадскага Клуба сяброў Элізы Ажэшкі прачытаваў мудрыя выказванні пісьменніцы.

У выставачнай зоне дэманстраваліся кніжная выстаўка «Кветкі і травы над Нёманам» Элізы Ажэшкі па матывах нарыса «Людзі і кветкі над Нёманам», выстаўка афарызмаў «Мудрыя выказванні Элізы Ажэшкі»; малюнкі па творах пісьменніцы. Фотавыстава «Вуліца Элізы Ажэшкі на фотаздымках» дапамагла ўсім жадаючым глыбей акунуцца ў атмасферу стагадовай даўніны.

**Вольга КОРШУН,**
**метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Мастоўскай раённай бібліятэкі.**

# Твар еўрапейскага класіка

## Новы том з серыі «ЖЗЛБ», прысвечаны Кузьму Чорнаму, прэзентаваны ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа

**«Свет і святло яго душы дасюль застаюцца загадкай, што прыцягвае глыбінёй і праўдзівасцю новыя пакаленні чытачоў, — і час таму не перашкода», — слушныя словы Галіны Шаблінскай, укладальніцы кнігі, адкрылі ўрачыстую прэзентацыю.**

Стварэнню кнігі «Кузьма Чорны. Чалавек — гэта цэлы свет» папярэднічалі некалькі знакавых дат. Летась мы адзначалі 115-годдзе пісьменніка. Сёлета — 95 гадоў, як творы яго пачалі друкавацца.

Для Галіны Шаблінскай гэта трэцяя кніга серыі ЖЗЛБ, створаная ў супрацоўніцтве з выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Першыя дзве прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу і Янку Купалу. Ужо маецца праект наступнай кнігі, аднак героя яе Галіна Шаблінская пакуль трымае ў сакрэце.

На пяцістах старонках прэзентаванага тома сабраныя ўспаміны сучаснікаў пра Кузьму Чорнага, інтэрв'ю яго родных і блізкіх, артыкулы і эсэ спадкаемцаў у пісьменніцкай працы, дзеячаў мастацтва, работы літаратуразнаўцаў розных пакаленняў. І вялікае значэнне ў гэтых работах мае пераасэнсаванне творчасці Кузьмы Чорнага з пазіцый сучаснасці. Аднак большасць галасоў чуецца з мінулага, а гэта дае магчымасць патрапіць у Беларусь Кузьмы Чорнага: Беларусь «Маладняка» і «Узвышша», сталінскіх рэпрэсій і акупацыі, а затым — вызвалення краіны. Канцэптуальна зборнік падзяляецца на пяць раздзелаў: сям'я і род Раманоўскіх, успаміны пра пісьменніка, даследаванні яго творчасці, мемуарная і эпісталярная спадчына Кузьма Чорнага і ўрэшце — ушанаванне яго памяці.

Асаблівая ўвага — матэрыялам, што публікуюцца ўпершыню. Шмат якія з'явіліся на старонках кнігі дзякуючы ўнуку пісьменніка, перакладчыку Міколу Раманоўскаму.

Галіна Шаблінская зазначыла, што Кузьма Чорны шмат працаваў з моладдзю, з'яўляўся для многіх «хросным бацькам» у літаратуры. «Мне надзвычай падабаецца партрэт, які абрала для вокладкі кнігі мастачка Анастасія Капульцэвіч. Адзін з маіх калег, пабачыўшы яго, сказаў: "Твар еўрапейскага класіка". Так яно і ёсць. Гэта цудоўна




Фота Кастуся Дробава.

Галіна Шаблінская.

давялі ў сваіх работах Алесь Адамовіч і Міхась Тычына».

Да слова, дызайн кнігі варты найвышэйшых адзнак. Адзначыла яго і кандыдат мастацтвазнаўства Алена Атраховіч (унучка Кандрата Крапівы): «Выдатны дызайн не перацягвае на сябе ўвагу, але дапаўняе глыбокі змест».

Шматлагоссе кнігі, розныя пункты погляду на творчасць Кузьмы Чорнага, сабраныя пад адной вокладкай, даюць новы, шмат у чым нечаканы партрэт класіка. Прыкладам, асобная ўвага надаецца яго драматургічнаму таленту. Існуе каля дваццаці пастановак па творах пісьменніка (першая — радыёспектакль 1956 года). З найноўшых такіх «інсцэнізацый» — радыёспектакль «Млечны шлях», прэм'ера якога адбылася на Беларускім радыё два гады таму. Асобныя ўрыўкі з яго прагучалі падчас прэзентацыі ў выкананні Марыі Захарэвіч, Алега Вінярскага і Віктара Манаева, а кампазітар Уладзімір Саўчык прадэманстраваў асноўную тэму твора, музычнае ўвасабленне ідэі любові і сусветнага ўсеадзінства. Творы Кузьмы Чорнага няпростыя для пастановак на радыё. Тым не менш драматург Пятро Васючэнка бліскуча справіўся з пераствараннем аповесці. Да ўсяго — уключыў у тэкст урыўкі з дзённікаў Кузьмы Чорнага. «У зборніку выразна чуюцца галасы апавядальнікаў, асаблівы парадак іх гучання», — зазначыў Пятро Васільевіч, даводзячы, што Галіне Шаблінскай дапамог у працы радыйны досвед.

На знак віншавання Васіль Зуёнак зрабіў Галіне Шаблінскай сімвалічны падарунак — кнігу Кузьмы Чорнага 1947 года. З віншаваннямі выступілі бард Алесь Камоцкі, паэт Навум Гальпяровіч, паэтэса Ірына Багдановіч, прафесар Эмануіл Іофе.

Адмыслова да прэзентацыі супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры падрыхтавалі выстаўку «Маштабнасць прозы і талент чалавечнасці». Экспазіцыя сабрала друкаваную і рукапісную спадчыну Кузьмы Чорнага: гэта выданні 1920 — 40-х гадоў, публікацыі ў часопісах «Атака», «Узвышша», «Маладняк», «Калоссе» і інш., здымкі Кузьмы Чорнага з маладнякоўцамі і ўзвышаўцамі, часоў Вялікай Айчыннай вайны, лісты да Пятра Глебкі, а таксама — малюнак алоўкам і шарж, зробленыя Чорным на Глебку, аўтографы пісьменніка.

Прэзентацыя арганізаваная сумесна Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

**Наста ГРЫШЧУК**

**Міхась МУШЫНСКІ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар:**

— Знаёмства з кнігай узрушыла мяне незвычайна! У ранейшых даследчых работах асвятляўся адзін бок таленту Кузьмы Чорнага: як празаіка, публіцыста ці драматурга. Цяпер жа кніга раскрывае Чорнага як магутную фігуру эпохі Адраджэння, актыўнага змагара за нацыянальную культуру, за нацыянальнае пісьменства як частку сусветнага. Заслуга ўкладальніка бачыцца мне ў тым, што тэксты пададзеныя без скарачэнняў, без цэнзурных купюраў, з захаваннем аўтарскай творчай волі. У гэтым асаблівая каштоўнасць выдання. Шмат выключных матэрыялаў, без якіх постаць Чорнага выглядала збедненай. Між тым прымушае непакоіцца будучыня чарназнаўства, у прыватнасці, аптымізацыя кадраў у Акадэміі навук. Вельмі хацелася б, каб музей Кузьмы Чорнага распачаў чытанні. Так, яны шмат робяць, але трэба прыцягнуць больш людзей, не толькі пісьменнікаў. Каб, прыкладам, і настаўнікі маглі карыстацца арыгінальнымі тэкстамі Чорнага, якія цяпер дасяжныя вузкаму колу даследчыкаў.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар:**

— Кузьма Чорны — адзін з тых беларусаў, якія і вонкава, фізічна, і ментальна — сапраўдны беларус. Засталося шмат нязведанага, прыкладам, узяць 1920-я гады. Ён не толькі кіраваў «Узвышшам», але пісаў мноства рэчаў пра тое, што хвалявала яго, а цяпер яго імя згубілася. Беларусы толькі пачалі вяртацца да мовы. І каб адчуць яе, трэба чытаць класікаў, у тым ліку — Кузьму Чорнага.

**Мікола РАМАНОЎСКІ,**
**перакладчык:**

— Адзінае, пра што шкадую: запозна даведаўся пра стварэнне кнігі і не ўсё ўдалося ўключыць, што хацелася. У прыватнасці, успаміны жанчыны, якая яшчэ дзяўчынкай жыла ў тым самым доме, дзе і Чорны, і Крапіва. Яна вельмі падрабязна распавяла пра жыццё дома па адрасе Свярдлоўская, 73 (цяпер Свярдлова). У сувязі з пераасэнсаваннем творчасці Чорнага ўзнікае пытанне: як увогуле сёння чытаць савецкую літаратуру? Яна занадта блізкая для нас па часе, каб аб'ектыўна ўспрымаць усе ідэалагічныя моманты. Застаецца пытанне з перакладамі, памылкова пазначанымі імем Чорнага ці, наадварот, пакінутымі без яго аўтарства.

**Ганна ЗАПАРТЫКА,**
**дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва:**

— Дакументальную частку кнігі склалі не толькі лісты і афіцыйныя паперы, але і шматлікія здымкі: адныя з фонду Пятра Глебкі бібліятэкі Коласа, іншыя — з фондаў БДАМЛМ, саратнікаў Чорнага — Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Антона Адамовіча, блізкага сябра Адама Бабарэкі. У фондах апошняга — шмат лістоў Чорнага. Лічу, кожны з нас мусіць набыць кнігу ўжо толькі дзеля іх. Гэта вельмі цікавыя, прыватныя старонкі жыцця пісьменніка, якія раскрываюць самыя нечаканыя моманты.

### Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**20 чэрвеня** — *у дзіцячую бібліятэку № 12 (вул. Прытыцкага, д. 18, к. 2) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Пачатак а 11-й гадзіне.*

**20 чэрвеня** — *на свята «Лета з добрай кнігай» у СШ № 191 (вул. Гарадзецкая, 7) з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**21 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Я мірную слаўлю краіну» з удзелам паэтэсы Ніны Галіноўскай у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 11.30.*

**21 чэрвеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

**22 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам Уладзімірам Мацвеенкам «Дзяцінства маё апаліла вайна» ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**23 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Аленай Шчарбаковай "У дзівосным свеце казкі" ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 10.30.*

**24 чэрвеня** — *на ўрок мужнасці «Вялікай Перамозе верныя» ў Мемарыяльную залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**21 чэрвеня** — *у публічную бібліятэку № 5 г. Мінска (вул. Казлова, 2) на прэзентацыю кнігі Алены Стэльмах «Дуб і крумкач». Пачатак у 10.30.*

**23 чэрвеня** — *у кнігарню «КнігаПоліс» (г. Мінск, вул. Сурганава, 46) на прэзентацыю дзіцячых кніг Генадзя Аўласенкі. Пачатак у 11.00.*

**24 чэрвеня** — *у дзіцячую бібліятэку № 10 г. Мінска (пр. Незалежнасці, д. 123-3) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Аленай Стэльмах «Колеры чароўнага лета». Пачатак у 10.30.*

### Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**20 чэрвеня** — *на прэзентацыю новых кніг Галіны і Сяргея Трафімавых у бібліятэку-філіял № 4 імя Я. Коласа (г. Орша, вул. Міра, 59). Пачатак у 11.00.*

**24 чэрвеня** — *на імпрэзу ля помніка А. С. Пушкіну ў межах святкавання Дня горада Віцебска з удзелам віцебскіх пісьменнікаў і пераможцаў маладзёжных літаратурных конкурсаў. Пачатак у 14.00.*

### Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | 1 месяц (у новых цэнах) | Падпісны індэкс |
|---|---|---|---|
| *Для індывідуальных падпісчыкаў* | **37 400 руб.** | **3,74 руб.** | 63856 |
| *Ведамасная падпіска* | **104 000 руб.** | **10,40 руб.** | 638562 |
| *Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў* | **23 900 руб.** | **2,39 руб.** | 63815 |
| *Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі* | **78 600 руб.** | **7,80 руб.** | 63880 |

# Класічны падыход, ці Ад вытокаў



Юдаль Пэн «Кравец».

Мастацтва, што не патрабуе анатацый і прэамбул, класічнае, праверанае часам, тое, што вытрымала змены эпох, плыняў, светапоглядаў. Яно актуальна заўсёды. Выстаўка «Школа класікаў. Беларускае і рускае мастацтва XIX — XX стагоддзяў» дэманструецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у рамках праекта «Нашы калекцыі». Экспазіцыя ахоплівае творчасць мастакоў амаль двух стагоддзяў. Больш за 80 графічных і жывапісных твораў схіляюць да задуменнага сузірання, разважанняў пра сэнс жыцця, вяртання да вытокаў, размоў з самім сабой...

Адна з адметных рыс вернісажу — работы вучняў і настаўнікаў побач. Сярод іх — прафесары Акадэміі мастацтваў Санкт-Пецярбурга і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Цікава прасачыць падабенства і розніцу, пераемнасць тэм і манеры пісьма, эвалюцыю абыходжання з колерамі і кампазіцыяй. Выстаўка — добрая нагода не толькі пабачыць тых, каго амаль усе добра ведаюць, але і адкрыць для сябе новыя імёны, асабліва беларускіх мастакоў, тых, хто калісьці быў незаслужана забыты ці вымушаны змяніць грамадзянства, з'ехаць з радзімы.

З гэтай кагорты — жывапісец Апалінарый Гараўскі. У музеі можна пабачыць яго графічныя эцюды. Нарадзіўся ў збяднелай шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Брэст-Літоўскім кадэцкім корпусе, а потым адправіўся пакараць Расію — у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Справа ў тым, што на тыя часы творцу лепш было вучыцца ў Вільні ці горадзе на Няве, бо ў Беларусі не было яшчэ дастатковых умоў. Адна з першых карцін Гараўскага «Балота», тым не менш, напісана на радзіме. Яе лёс склаўся шчасліва: папала ў калекцыю царскай сям'і.

Юдаль Пэн, віцебскі мастак, знакаміты дзеяч «яўрэйскага рэнесансу» і настаўнік Марка Шагала, таксама тут. Карціна «Кравец» — псіхалагічна вывераны, духоўны па атмасферы партрэт пажылога чалавека, стомленага, задуменнага, але таго, хто старанна займаецца сваёй справай. У гэтым жанры Юдаль Пэн з'яўляецца прадаўжальнікам традыцый Хруцкага і Сілівановіча. Майстар праўдзівых характараў звычайных людзей — гадзіншчыкаў, шаўцоў, гандляроў. Мастак сам быў з сям'і збяднелага рамесніка, таму добра ведаў, што такое нялёгкае сацыяльнае становішча. Юдаль Пэн вядомы як таленавіты педагог, які заснаваў у Віцебску Школу малявання і жывапісу, першае ў Расіі мастацкае вучылішча для яўрэяў, што праіснавала з 1892 па 1918 гады. Вучні, сярод якіх не толькі Шагал, але і, напрыклад, Пётр Явіч, узгадвалі яго як чалавека надзвычай адкрытага, чулага, простага і разам з тым вельмі культурнага. Ён ніколі не павышаў голас, ставіўся да юных мастакоў з павагай і клопатам, як да сваіх дзяцей.

Яшчэ адзін славуты беларус — Іван Хруцкі з Лепельскага павета Віцебскай губерні — стаў наватарам у жанры нацюрморта, які дагэтуль лічыўся хутчэй прыкладным, чым самастойным. Дэталізацыя, выразнасць і ўрачыстасць — тое, што яго адрознівае. Гэта іншы ўзровень звыклага на тыя часы. На выстаўцы ёсць і яго сямейныя партрэты, вельмі ўтульныя, поўныя пяшчоты і шчырасці. Вылучаецца і карціна Фердынанда Рушчыца «Ля касцёла», напісаная ў 1899 годзе. Выстаўлена на асобным мальберце. Адзіная, напісаная мастаком у Беларусі. Ён, відаць, імкнуўся перадаць у ёй энергетыку натоўпу людзей, што зліліся ў адзінай мэце — веры, ля божага дому, дзе шукаюць здзяйснення надзей і мараў... А надзея ёсць — пра гэта сведчыць сонечнае веснавое неба. Жывапісец вучыўся ў Шышкіна і Куінджы. Работы апошніх рэфрэнам адгукаюцца ў наступных залах музея... У пазалочанай раме — жоўтае поле Палесся ў перыяд жніва. Нечакана: ад ужо ўзгаданага рускага генія Івана Шышкіна. А вось Куінджы, вучань Айвазоўскага і настаўнік Рэрыха, прадстаўлены больш містычнымі, загадкавымі пейзажамі, неадназначнымі дзякуючы незвычайнаму абыходжанню са святлом і ценямі. Такі яго «Бярозавы гай». Мастак не «фатаграфаваў» прыроду, а пазнаваў, пераасэнсоўваў, надаючы мастацтву ўсё больш індывідуальныя, асабістыя рысы, даючы права на ўласнае выказванне, якое можа быць непадобным, смелым. Зачароўвае таксама «Жнівень» ураджэнца Магілёўскай зямлі, народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі. Побач — зямля Салігорская ад Мая Данцыга.

Усхваляваца ад сузірання акварэлі — па творах Фёдара Ясноўскага, на якіх ажывае і вада, і камень, і дрэва. Па экспрэсіі мастак ужо блізкі да імпрэсіяністаў. Нарадзіўся таксама на Беларусі, у Мінскай губерніі, хоць і лічыцца рускім. Што тычыцца партрэтаў, то варта выдзяліць творчасць Сяргея Заранкі, таксама «рускага з Беларусі», віртуоза адлюстравання ўнутранага стану людзей па іх позірку, вопратцы, руках... На гэтым фоне кантрастам выглядае перасоўнік Абрам Архіпаў з яго чырванашчокімі паненкамі ў яркіх спадніцах.

Шчырасць, пазбаўленая імкненняў адпавядаць модзе ці эпатаваць, пастаянная работа над сабой, жаданне ўсхваляць тое, што ты бачыш, любоў да прыроды і людзей — вось што адрознівае ўсіх мастакоў экспазіцыі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Калі б жанчыны завалодалі светам…

## (паводле скульптара Андрэя Асташова)

**«Поспех» — недастаткова моцнае слова для творчасці скульптара Андрэя Асташова, стыль якога непаўторны, нават эксцэнтрычны. Ён адзін з самых запатрабаваных і дарагіх беларускіх скульптараў. Свой апошні праект «Дакрананне» Андрэй Асташоў прэзентаваў у межах адкрыцця музычных вечароў на летняй тэрасе «Рэнесанс Мінск гатэль».**



Скульптуры аўтара размешчаны на першым і другім паверсе гатэля. Амаль усе работы — вынік працы мастака за апошні год. У якасці асноўных вобразаў скульптурных кампазіцый аўтар выкарыстоўвае сімвал амазонкі, і гэта невыпадкова: міфічныя гісторыі пра амазонак і жанчын-ваяўніц натхнялі многіх мастакоў эпохі Рэнесансу (што перагукаецца з назвай гатэля).

Жаноцкую прыгажосць Андрэй Асташоў дэманструе спецыфічна. Рамантычнасць і летуценнасць яго гераінь цесна пераплятаецца з эратычнасцю і спакусай. У сюжэтах майстра выдуманае і рэальнае становіцца адным цэлым. Можна бясконца разглядаць застылых у прасторы прыгажунь, адчуваць іх энергетыку ваяўнічасці.



Усе скульптуры праекта «Дакрананне» выкананы ў адной стылістыцы. Калі рухаешся ад аднаго экспаната да іншага, адчуваеш, што патрапіў у фільм, дзе жанчыны завалодалі светам і цяпер абавязаны захаваць яго вытанчаным і прыгожым. Такая мастацкая канцэпцыя скульптара дэманструе, наколькі педантычна ён ставіцца не толькі да працэсу стварэння скульптуры, але і да выгляду іх у прасторы. Увогуле, амаль усе скульптурныя кампазіцыі Асташова ўніверсальныя. Яны могуць упрыгожваць дарагія інтэр'еры (дарэчы, большасць твораў аўтара характарызуюцца як інтэр'ерная скульптура), гарманічна будуць выглядаць у адкрытай прасторы. У якасці матэрыялаў для работ аўтар выкарыстоўвае камень альбо бронзу.

У выразах твараў прыгажунь-амазонак скульптара вы не знойдзеце чэрствасці і жорсткасці. Аўтар аддзяляе іх ад стэрэатыпных вобразаў жанчын-драпежніц і надае лёгкасці, вытанчанасці. Атлетычны склад цела амазонак ён таксама трансфармуе: у гераінь адсутнічае рэльефная мускулатура. Адзінае, што надае ім від сур'ёзнасці, — баявая зброя. Здаецца, пазбавіўшы дзяўчын зброі, глядач назіраў бы абсалютна іншы твор мастацтва. Па словах Андрэя Асташова, ён хацеў паказаць жанчын, якія ахоўваюць мастака ад цынічнасці штодзённасці, ад жорсткасці навакольных працэсаў. Іх місія — стварыць для мастака ўяўную прастору, дзе будзе лёгка і камфортна ствараць.

У творчасці Андрэй Асташоў прапануе гледачу быць яго суаўтарам, які, жадаючы зразумець сэнс твора, можа прапанаваць самастойную інтэрпрэтацыю аўтарскай ідэі. Падчас прагляду работ глядач нечакана апынаецца на лесвіцы інтрыгі, цесна звязанай з пачуццём цікавасці і захаплення, там жа ён і разумее, што Андрэй Асташоў — не толькі скульптар, але і добры апавядальнік, які ведае, як зачапіць мастацкім кантэкстам.

У 2013 годзе беларускі скульптар стаў уладальнікам міжнароднай прэміі «Вера» ў намінацыі «За шырыню задумы і грандыёзнасць увасаблення» па выніках VII Маскоўскага міжнароднага фестывалю мастацтваў «Традыцыі і сучаснасць». Гэты факт яшчэ раз сведчыць пра прызнанне Андрэя Асташова ў свеце і яго моцную мастацкую энергію.

**Вікторыя АСКЕРА**

# І на руінах вырастаюць кветкі...

**Ёсць на зямлі сіла, што перамагае смерць, забыццё і боль, непадуладная, незгасальная, з'яўляецца з ніадкуль, але назаўсёды. Яна нават мацней за час, рухае людзьмі, надзяляючы непераможнай энергіяй, такой, што і на камянях можна вырошчваць кветкі. Вечная для ўсяго чалавецтва тэма паднятая ў новым балеце «Каханне і смерць» з музыкай азербайджанскага кампазітара, народнага артыста Азербайджана і дыпламата Палада Бюльбюль аглы ў пастаноўцы беларускага харэографа Вольгі Костэль.**

Менавіта з гэтай пастаноўкі стартавала «Балетнае лета ў Вялікім», у ёй заняты вядучыя салісты і артысты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. Чаму ж прыгожая ўсходняя легенда-казка, што адлюстроўвае каларыт іншага народа, глядзіцца ў нас, на Беларусі, вельмі гарманічна, зразумела? Сапраўднае мастацтва валодае ўніверсальнай мовай і не мае межаў. Музыка асобнага народа ўплятаецца ў кантэкст сусветнай менавіта дзякуючы таленту яе стваральніка…

Тры гады таму на сцэне Вялікага з поспехам прайшоў спектакль «Сем прыгажунь» Кара Караева, трывала прапісаўшыся ў рэпертуары. А гэта — залаты фонд нацыянальнай азербайджанскай музычнай культуры. Так што для нас Палад Бюльбюль аглы і азербайджанская музыка ўвогуле — ужо не штосьці экзатычнае.

Тэмы, узнятыя ў «Каханні і смерці», першым азербайджанскім балеце XXI стагоддзя, зразумеюць усе — незалежна ад рэлігій і нацыянальнасцей. Смерць заўсёды ідзе побач з чалавекам, з самага яго нараджэння. Камусьці дае шанец пражыць доўга і шчасліва, кагосьці забірае хутка і бязлітасна... Але ёсць эліксір ад яе — каханне, якое дарue неўміручасць.



*Азер і Байджан. Вяселле перад расстаннем.*

## НА СКРЫЖАВАННІ ЧАСОЎ

Палад Бюльбюль аглы першым з азербайджанскіх кампазітараў звярнуўся да тэмы старажытнацюркскага эпасу (дастана), шэдэўра помніка сусветнай пісьмовай культуры пад назвай «Кітабі Дэдэ Каркуд» («Кніга майго дзеда Каркута»). Аформіў яго ў выглядзе маштабнага музычна-сцэнічнага дзеяння.

Каханне і смерць — ледзь не самыя прыцягальныя тэмы для разважанняў філосафаў, мастакоў, паэтаў і рэжысёраў усіх часоў. Але каб усвядоміць гэтыя з'явы хоць у нейкай меры, варта звярнуцца да спрадвечнага, вытокаў — мудрасці продкаў. У гэтым і каштоўнасць эпасу як жанру. Папярэднія пакаленні нагадваюць нам, што на самыя неймаверныя, магутныя ўчынкі можа заахвоціць толькі каханне, а не, скажам, азарт альбо ганарлівасць. Яно ж робіць людзей бессмяротнымі. Паглядзіце на сусветную культурную спадчыну: у міфах і легендах, паданнях і гістарычных артэфактах застаюцца жыць тыя, вялікія, хто даўно сышоў ад нас... Тое ж самае адбываецца ў душы, калі мы губляем блізкіх. Хіба можна забыць пра іх?

Зразумела, там, дзе любоў і смерць, падымаюцца тэмы шчасця і гора, гора і радасці, здрады і прабачэння, перамог і паражэнняў — усё гэта абыгралі ў балеце даволі вытанчана і пачуццёва. Не хапіла запалу амаль што ў любоўных дуэтах, бо артысты, мабыць, баяліся перайграць, страціўшы гармонію, не ператварыць трагедыю ў камедыю.

Балет не сляпая інсцэніроўка ўсяго эпасу, які, між іншым, складаецца з 12 паданняў-песень (і кожная з іх цягне на асобны твор). Там наогул гаворыцца пра тленнасць быцця і тое, што ўсё заканчваецца. Палад Бюльбюль аглы прапаноўвае творчае бачанне з'явы. Лейтматывам «Кахання і смерці» стала ідэя энергіі, якая можа перамагчы нават тое, што мы і зразумець да канца не можам. Дарэчы, «Кітабі Дэдэ Каркуд» быў створаны больш чым 1300 гадоў таму, але яго пераасэнсаванне з інтарэсам успрымаецца зараз.

Чаму Палад Бюльбюль аглы ўзяў за аснову сваёй музыкі менавіта глыбока народны твор? Справа не толькі ў патрыятызме. У эпасе, на яго думку, тоіцца стрыжань і духоўная апора кожнага народа, яго карані, якія дапамагаюць утрымацца ў самыя цяжкія часы. Як цяпер: канфлікты, эканамічныя крызісы, інфармацыйная «істэрыя»… Справа яшчэ і ў тым, што з агузамі, пра чыё гераічнае мінулае распавядаецца ў «Кнізе майго дзеда Каркута», звязаны многія народы Азіі і Еўропы. Акрамя таго, гэты эпас убірае ў сябе народныя вусна-паэтычныя традыцыі цэлай эпохі — з IX па XV стагоддзя. А там ёсць што для сябе адкрыць.

## МУЗЫКА, ШТО РАЗМЯЎЛЯЕ

Як бы ні была выдзелена лінія двух галоўных герояў, юнака Азера і дзяўчыны Байджан, якія любяць адзін аднаго насуперак перашкодам, галоўны герой балета — музыка. У яе ёсць характар. Яна можа гаварыць і рухацца за ўсіх. Маляўнічая, выразная, тэмпераментная, вызначае кожнае балетнае па, кажучы то гарачымі рытмамі, то пяшчотнымі, пластычнымі інтанацыямі. Шматграннасць напісанага Паладам Бюльбюль аглы твора складана ахапіць і нават апісаць. А за працай запрошанага дырыжора, маэстра Эйюба Куліева з Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, можна ўвогуле назіраць асобна як за асобным спектаклем унутры пастаноўкі. Настолькі шчыра і эмацыянальна ён працаваў з музыкантамі.

Палад Бюльбюль аглы злучыў у балеце нацыянальную азербайджанскую мелодыку, даволі лірычную, і сучасныя еўрапейскія рытмы. У яго ёсць досвед стварэння як эстрадных, так і сімфанічных твораў, вакальных цыклаў, мюзіклаў.

Кампазітар адважыўся ўзяцца за напісанне балета гадоў 10 таму, калі быў міністрам культуры Азербайджана. Пісаў музыку амаль тры гады. Хацеў, каб кожны, хто яе пачуе, задумаўся, а не проста сузіраў, паразважаў, у чым яго прызначэнне ў жыцці, навучыўся шанаваць блізкіх, кожную хвіліну існавання... Ды і пафантазіраваць пра тое, што там, за мяжой гэтага свету, заўсёды цікава. Цяпер ён лічыць «Каханне і смерць» сваёй галоўнай творчай работай.

Палад Бюльбюль аглы працягвае традыцыі заснавальніка азербайджанскай класічнай музыкі Узеіра Гаджыбекава, з'яўляючыся яшчэ і вучнем выбітнага кампазітара Кара Караева. Сутнасць у тым, што нават першая ў Азербайджане опера «Лейла і Меджнун» спалучае мноства элементаў, зноў жа, спрадвечныя традыцыі і еўрапейскія акцэнты, яркія ўсходнія і стрыманыя класічныя мелодыі, эпічныя масавыя ансамблі і пранікнёныя, нават інтымныя дуэты. Крытыкі заўважаюць творчае праламленне кампазітарам у «Каханні і смерць» таксама абаротаў старажытнага азербайджанскага мугама, аднаго з традыцыйных музычных жанраў.

## ДВАІСТАСЦЬ БЫЦЦЯ

Першая пастаноўка «Кахання і смерці» адбылася 11 гадоў таму ў Баку. Потым была Масква, Піцер, Екацярынбург. Усе версіі вельмі розныя. У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі — са сваім канцэптам, закладзеным харэографам-пастаноўшчыкам Вольгай Костэль. Шмат паралеляў з нацыянальнай пастаноўкай «Вітаўт» — па атмасферы і касцюмах, масавасці і батальнасці. Вольга Костэль паставіла перад сабой і артыстамі шмат задач — складаныя падтрымкі, азербайджанскія танцы, масавыя сцэны, хуткая змена дзеянняў... Сюжэт пачынаецца з ночы напярэдадні свята вясны Наўруз, калі ўзмацняецца сувязь мінулага і будучыні. На схілах гор у магічным чаканні сыходзяцца сілы святла і цемры... Яскравым акцэнтам, які тлумачыць тое, што адбываецца на сцэне, з'яўляюцца велізарнае дрэва жыцця (задумка галоўнага мастака Вялікага Аляксандра Касцючэнкі) і кветка кахання, што ператвараецца ў фінале ў квяцісты сад...

Але галоўная асаблівасць беларускай версіі балета — яго шматгранная дуалістычнасць, прычым гэта прасочваецца ва ўсім: ад музыкі, філасофіі, рухаў да дэкарацый. На сцэне пастаянна перасякаюцца дзве стыхіі: разбуральная і ствральная, белая і чорная. Іх відавочнае адлюстраванне — у выразным танцы дзвюх пар, якія сімвалізуюць дабро і зло, анёлаў і дэманаў. Рэфрэнам яны праходзяць праз усе дзеянні, то вырываючыся на першы план, то як бы назіраючы збоку... Дваістасць сюжэта — у адлюстраванні, з аднаго боку, каларыту гістарычнай эпохі, гераікі, звязанай са старажытнацюркскімі плямёнамі, а з іншага — лакальных перажыванняў двух галоўных герояў. Узнёслае каханне на фоне змрочнага часу. Трагізм і жыццесцвярджэнне.

Прыкаваны да скалы злым ханам Гара-Мелікам Азер вызваляецца і забівае злыдня. Пакуты надзяляюць яго велізарнай сілай. Невыносная боль ад страты штурхае нават на здзелку са смерцю ў абмен на жыццё каханай. Тая сіла, што вечна хоча зла, але становіцца безабаронная перад дабром...

Вольга Костэль здолела захаваць этнічныя асаблівасці ў балеце, надаўшы пастаноўцы і сучасны акцэнт. Не было зацягнутасці, дзеянне развівалася дынамічна. Складаныя падтрымкі ў дуэтах згладжвалі некаторую нязладжанасць кардэбалету. Але гэта яшчэ толькі пачатак жыцця спектакля на сцэне.

Балет стаў не проста новай падзеяй культурнага жыцця, але і сімвалам узаемадзеяння культур краін, што імкнуцца да міру і згоды паміж народамі.

Пастаноўка на ўсходнюю тэму ў Вялікім тэатры — не першая ў афішы. Вядома, гэта бяспройгрышны варыянт, відовішчны і яркі. Мы ведаем «Баядэрку», «Шахеразаду», «Сем прыгажунь», «Бахчысарайскі фантан». А вось са спектакляў з нацыянальным беларускім каларытам — адзін толькі «Вітаўт». У нас жа таксама ёсць пра што расказаць, калі звярнуцца, скажам, да фальклору ці гісторыі. А колькі балетаў ужо напісана і чакаюць сваіх пастаноўшчыкаў!

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**



*Ахвяра ў імя кахання.*

# Кіно пад адкрытым небам

## Ад містычнага да камедыйнага



Кадр з фільма «Доктар Джэкіл і Містар Хайд», 1925 г.

У Мінску апошнім часам з'яўляюцца разнастайныя па тэматыцы кінафестывалі, якія цікавыя публіцы. Гледачы часцей праглядаюць афішы ў пошуках месца, дзе паказваюць не масавыя фільмы, а якаснае, сэнсавае кіно. Некаторыя кінафестывалі праходзяць адзін раз і ўсё ж такі выпадаюць з памяці, а некаторыя становяцца культурнай традыцыяй для Мінска. Літаральна ўчора ва ўнутраным дворыку музея-майстэрні Заіра Азгура распачаўся IV *open-air*-фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі «Кінемо», арганізаваны праектам «*Cinemascope*» і Асацыяцыяй маладых беларускіх кампазітараў. Праграма фестывалю прадугледжвае пяць захапляльных кінавечароў пад адкрытым небам (кожны чацвер да 14 ліпеня), агучаных музыкай сучасных беларускіх і замежных музыкантаў і кампазітараў, спецыяльна напісанай для прадстаўленых у праграме фільмаў. Дарэчы, Мемарыяльны музей-майстэрня Заіра Азгура прымае фестываль у чацвёрты раз.

Фільмы, якія сёлета складаюць праграму фестывалю «Кінемо», — класіка амерыканскага нямога кінематографа пачатку XX стагоддзя. Штогод арганізатары карпатліва падбіраюць кінастужкі, бо гледача трэба ўразіць, а калі глядач дасведчаны і разбіраецца ў кінапрацэсе, то здзівіць не так і проста. Але ж тут таксама ўсё залежыць ад эфекту: на адкрытай пляцоўцы пад добрую, меладычную музыку фільмы становяцца лёгкім, свежым паветрам, якое ўдыхаеш з задавальненнем.

Адзін з арганізатараў фестывалю «Кінемо», кіраўнік праекта «*Cinemascope*» Гера Глік, расказаў карэспандэнту «ЛіМа» пра вартасць і патрэбнасць такога роду фестывалю ў краіне і пра канцэптуальны падыход да арганізацыі сёлета:

— Фестываль «Кінемо» варты тым, што ўяўляе сінтэз якаснага кіно і музыкі. Тут няма папсовага падыходу. Наш фестываль праходзіць летам, таму мы спакойна можам арганізоўваць яго ў адкрытай прасторы, якая ў спалучэнні з прадстаўленым кіно будзе ствараць добры настрой. Кожны год мы падбіраем фільмы разам з музыкантамі, якія пішуць музыку для іх. Гэта абсалютна ўзаемны працэс: фільм павінен падабацца чалавеку, які яго музычна агучвае. Бывалі сітуацыі, калі арганізатарам падабаўся фільм, а музыканту быў не па духу. Творцаў можна зразумець: ім пісаць музыку на паўтары гадзіны, а фільм проста не грэе душу, дык што тады ў выніку атрымаецца? Менавіта таму заўсёды шукаем кампраміс. Канцэпцыя фестывалю сёлета адрозніваецца ад мінулых гадоў толькі ў падборцы кінастужак. Мы падабралі большасць фільмаў містычнай накіраванасці і зноў жа не адказаліся ад камедыйнасці. Камедыя адкрыла фестываль і будзе прадэманстравана ў праграме кароткага метра. У цэлым мы не жадаем адмаўляцца ад традыцыйнага падыходу фестывалю, бо ў Беларусі аналагаў такога культурнага *open-air* больш няма.

Адкрыла фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі «Кінемо» кінастужка 1924 года «Сціплы» рэжысёраў Сэма Тэйлара і Фрэда С. Ньюмэера. Фільм быў выбраны для паказу першым менавіта з-за шматграннасці. У ім тонка змешваюцца элементы жанраў камедыі і меладрамы, а галоўныя ролі выконваюць знакаміты амерыканскі акцёр Гаральд Лойд (нароўні з Чарлі Чаплінам і Бастарам Кітанам з'яўляўся адным з найбольш папулярных і ўплывовых кінаакцёраў эпохі нямога кіно) і актрыса Джабіна Ролстан, драматычным і камедыйным талентам якой на пачатку XX стагоддзя захапляўся Галівуд. Фільм «Сціплы», нягледзячы на камедыйную стылізацыю, — сур'ёзнае апавяданне пра характары двух закаханых, якія вымушаны змагацца за магчымасць быць разам. Камедыйнасць яго заключаецца ў вобразах. Галоўны герой Гаральд вельмі сарамлівы, але ж пры гэтым піша дапаможнік па спакушэнні жанчын рознага тыпажу (у тым ліку і жанчыны-вамп). Сарамлівасць кудысьці знікае, калі ён сустракае жанчыну, якая адказвае ўзаемнасцю. Гледачы назіралі за сюжэтам фільма пад музычнае суправаджэнне яркага прадстаўніка маладога пакалення фартэпіяннай школы Аляксея Пятрова.

У наступны чацвер мінская публіка зможа ўбачыць кінастужку «Доктар Джэкіл і Містар Хайд», знятую ў 1920 годзе рэжысёрам Джонам Робертсанам па матывах аповесці жахаў шатландскага пісьменніка Роберта Стывенсана. Фільм у жанры навуковай фантастыкі, закранаецца тэма эксперыментаў чалавека над сабой і светам. Галоўны герой, доктар Генры Джэкіл (ролю выконвае акцёр Джэн Бэрымор), у выніку навуковых эксперыментаў стварае прэпарат, які зараджае ў ім дваістае жыццё — існаванне прыроды зла і прыроды дабрыні. Фільм — своеасаблівая канцэпцыя рэжысёра паказаць, што свет нельга ідэалізаваць. У развіцці сюжэта галоўны герой дэманструе, як у выніку пэўных падзей абсалютна спакойны чалавек можа трансфармавацца ў крыважэрнага звера і як адбываецца зваротны працэс. Да такога фільма патрэбна і адпаведная музыка. Гэтым вечарам музычны настрой у дворыку музея будзе ствараць суполка маладых творцаў: віяланчэлістка Ілона Лесь, скрыпачка Кацярына Рэут, гітарыст Андрэй Еўдакімаў і ўдарнік Данііл Залескі.



Кадр з фільма «Прывід оперы», 1925 г.

30 чэрвеня арганізатары прапануюць аматарам містычнага кіно не менш эмацыянальны за папярэдні фільм пад назвай «Монстр». Пад музыку Віталя Эпава (духавыя інструменты), Вольгі Падгайскай (фартэпіяна) і Анастасіі Паповай (скрыпка) гледачы змогуць назіраць дзеянне ў правінцыяльным горадзе Данбург, дзе загадкавым чынам знікаюць заможныя людзі. Але ж знікненне — хутчэй нагода паказаць характарнасць галоўнага героя — клерка Джоні Гулітла (выконвае ролю акцёр Лон Чэйні), які ў выніку асабістай актыўнасці спрабуе разам з маладым дэтэктывам зразумець, хто мае дачыненне да знікнення гараджан. Рэжысёр кінастужкі Роланд Эст — майстар інтрыгуючых сюжэтаў. Ён зняў фільм «Монстр» у 1925 годзе. Дэтэктыўныя загадкі не даюць спакойна сачыць за развіццём сюжэтнай лініі, цяжка прадугледзець, якое дзеянне з'явіцца на экране далей.

Перадапошнім фільмам, паказаным у межах фестывалю, будзе вядомая кінастужка жахаў «Прывід оперы», знятая ў 1925 годзе адразу чатырма рэжысёрамі — Рулертам Джуліянам, Лонам Чэйні, Эрнстам Лэмле і Эдвардам Седжвікам па аднайменным рамане французскага пісьменніка Гастара Леру. Фільм максімальна набліжаны да арыгінальнага сюжэта рамана (адрозніваецца толькі канцоўка) і дазваляе гледачу апынуцца ў чароўных сценах знакамітай Гранд Апера, даведацца некаторыя яе таямніцы. Канечне, усе жахі, адлюстраваныя ў фільме, захапляюць дух, але, калі перад праглядам чытаў твор Леру, ведаеш, што будзе на экране і спрабуеш параўнаць, наколькі паспяхова рэжысёры перадалі задуму. Гісторыя пра знявечанага кампазітара, які жыве ў глыбокіх катакомбах пад операй і пакутуе ад кахання да маладой прыгожай спявачкі, суправаджаецца адчаем і неспакоем. Галоўную ролю ў фільме выконвае адзін з рэжысёраў фільма Лон Чэйні, які да здымак у «Прывідзе оперы» праславіўся роллю гарбуна Квазімоды ў першай экранізацыі «Сабора Парыжскай Божай Маці». Суправаджацца дзеянне фільма будзе музычнымі кампазіцыямі польскага гурта «*Modular String Trio*».



Кадр з фільма «Сціплы», 1924 г.

Завяршаць фестываль «Кінемо» 14 ліпеня будзе праграма кароткаметражных фільмаў. Першай пакажуць кінастужку «Жыццё і смерць галівудскага статыста 9413» (1922 г.) рэжысёраў Роберта Флоры і Слаўко Варкаліча. «9413» — парадкавы нумар Містара Джонса (ролю выконвае акцёр Жуль Рокур), які прыехаў у Галівуд з надзеяй стаць зоркай экрана. Надзеі не спраўджваюцца: канкурэнты не даюць магчымасці Джонсу адчуць сябе запатрабаваным і ўпэўненым. Мара быць шчаслівым і таленавітым акцёрам рэзка становіцца для героя катастрофай. Тэмы слабасці чалавека ў кіно былі і ёсць актуальныя, бо фільм абавязаны закрануць душу гледача і звярнуць яго ўвагу на дзеянні, якія для аднаго чалавека — дробязь, а для іншага — зламанае жыццё. Кароткаметражны фільм «Шукальнік прыгод» Чарлі Чапліна, зняты ў 1916 годзе, у праграме фінальнага кінавечара запланаваны наступным. Галоўная роля тут належыць Чарлі Чапліну, які на вялікім экране дэманструе збор грандыёзных трукаў, падчас выканання якіх акцёр на здымках не карыстаўся страхоўкай. Камедыйная гісторыя пра беглага катаржніка, які на працягу фільма ратуецца ад паліцэйскіх, цікавая па задуме: вясёлы сюжэт, які ўспрымаецца з лёгкасцю, нечакана становіцца трагедыяй невялікага чалавека. Апошняй кінастужкай, паказанай у межах фестывалю, стане карціна 1922 года «Бледнатвары», знятая рэжысёрамі Бастарам Кітанам і Эдвардам Ф. Кланам. Яна відавочна адлюстроўвае, як насамрэч выглядае «справа выпадку» і ў той жа час супярэчліва дэманструе, што выпадковасцей не бывае. Калі чалавек са светлай скурай трапляе ў лагер індзейцаў, якія ў выніку патрабавання белых людзей павінны пакінуць сваю зямлю, яны без размоў вырашаюць адпомсціць за сябе.

Апошнім вечарам у дворыку музея за праглядам кароткаметражак госці будуць слухаць кампазіцыі лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксандра Хумала, музыка-эксперыментальнага электроннага праекта «*Wëska projekt*» (прадстаўляць будзе Весялін Румянцаў) і песні музычнага гурта «*Vuraj*», які сінтэзуе беларускі фальклор з элементамі сучасных музычных стыляў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Джазавая атмасфера на вуліцах Мінска

## Джаз-бэнд ваенна-паветраных сіл ЗША і музыканты з іншых краін выступаюць ля Ратушы

Учацвёрты раз на пачатку лета цэнтр Мінска ператвараецца ў міжнародную музычную прастору, дзе збіраюцца зоркі сусветнага джаза, каб зарадзіць музычную публіку новымі эмоцыямі і ўражаннямі. «Джазавыя вечары ля Ратушы з Банкам БелВэб, 2016» — сапраўднае музычнае свята, якое дорыць слухачам прыемны настрой і можа адбывацца пры любых умовах.

Наколькі фестываль «Джазавыя вечары ў Мінску» важны і актуальны для беларускіх слухачаў, што змянілася ў яго канцэпцыі за чатыры гады і ці адразу згаджаюцца замежныя артысты прыязджаць у Мінск, карэспандэнту «ЛіМа» расказаў выконваючы абавязкі дырэктара Польскага інстытута ў Мінску (Польскі інстытут — адзін з арганізатараў «Джазавых вечароў») Томаш Адамскі:

— З пункту гледжання Польскага інстытута ў Мінску, канцэпцыя фестывалю не змянілася. Нашай мэтай, як і ў папярэднія гады, з'яўляецца прэзентацыя найлепшага джаза мінскай публіцы. Нас вельмі радуе, што гэты праект развіваецца і ўжо становіцца традыцыяй. Такога роду мерапрыемствы арганізоўваюцца ў самых буйных гарадах па ўсёй Еўропе і даюць шанец шырокай публіцы ўпершыню пазнаёміцца з лепшымі джазавымі выканаўцамі. Сама джазавая музыка, заснаваная на імправізацыі, можа служыць натхненнем да крэатыўнага, нестандартнага мыслення і погляду на жыццё. Фестываль «Джазавыя суботы ля Ратушы» дазваляе жыхарам Мінска на час адарвацца ад штодзённых клопатаў і атрымаць асалоду ад роднага горада. Доказам таму служыць вялікая колькасць гледачоў, якая, нягледзячы на вельмі дрэннае надвор'е, прыходзіць на плошчу Свабоды.

Польскія джазмены — людзі адкрытыя, яны цікавяцца светам. Таму нам нескладана ўгаварыць іх прыехаць у Беларусь. Шматлікія музыкі былі тут ужо раней у рамках канцэртаў, якія на працягу многіх гадоў Польскі інстытут арганізоўвае ў Мінску. Яны запрашаюць сваіх знаёмых, якія тут яшчэ не былі, дзелячыся пазітыўнымі ўражаннямі ад Мінска і Беларусі ў цэлым. Усім вельмі падабаецца беларуская кухня, чысты горад і, перш за ўсё, выдатная публіка.

Сёлета «Джазавыя суботы» пачаліся 11 чэрвеня з выступлення амерыканскага вакаліста і аўтара песень Сачала Васандані (ЗША), які пакарыў свет дзіўным голасам і неверагоднай харызмай. Выступленне спевака вызвала захапленне ў публікі, якая, нягледзячы на дождж, атрымлівала асалоду ад чароўных мелодый. У творчасці Сачал Васандані аб'ядноўвае джазавую і поп-музыку, чым і дасягае непаўторнасці і незвычайнасці. Яго музыка выклікае добрыя і светлыя эмоцыі, запаўняючы атмасферу энергіяй і страсцю ўнікальнага музычнага жанру. Раней спявак прыязджаў са сваім выступленнем у Мінск, таму слухачы, ужо знаёмыя з творчасцю вакаліста, змогуць прааналізаваць, наколькі за пройдзены час змяніўся рэпертуар Сачала Васандані. Пасля выступлення Сачала плошча Свабоды напоўнілася музыкай польскіх прадстаўнікоў класічнага джаза Метэка Шчэсняка і трыа Кшыштафа Херздзіна. А завяршылі суботні вечар «Яблычная гарбата» мэтры беларускага джаза, якія за больш як дваццаць год актыўнай музычнай дзейнасці выпусцілі сем творчых альбомаў.

У наступныя «Джазавыя суботы», якія адбудуцца 18 і 25 чэрвеня, наведвальнікаў чакае не менш цікавая музычная праграма ад прадстаўнікоў джазавага кірунку ЗША, Італіі, Францыі, Румыніі і Вялікабрытаніі. Традыцыйна ўваход на канцэрты «Джазавых субот» бясплатны.

18 чэрвеня публіка атрымае музычны падарунак ад джаз-бэнда аркестра ваенна-паветраных сіл ЗША «*Ambassadors*», якія пазіцыянуюць сябе прадаўжальнікамі творчых традыцый амерыканскага трамбаніста, кіраўніка аднаго з лепшых свінгавых аркестраў перадваеннага часу, маёра Глена Мілера. На працягу доўгіх год бэнд займаецца папулярызацыяй джазавай музыкі не толькі на тэрыторыі ЗША, але прадстаўляе сваю творчасць па ўсім свеце: ад Ірландыі да Азербайджана. Падчас канцэрта творчую канкурэнцыю «*Ambassadors*» складзе папулярны джазавы вакаліст Іен Шоу, які валодае арыгінальным, нават спецыфічным сцэнічным вобразам



*Выступленне амерыканскага вакаліста Сачала Васандані.*

і дастаткова правакацыйным стылем выканання. А ў пары з вакалістам выступіць трыа беларускага піяніста-віртуоза, джазавага арганіста Канстанціна Гарачага, на канцэртах якога як у краіне, так і за яе межамі складана знайсці свабоднае месца. Ну і напрыканцы музычнага вечара слухачы атрымаюць асалоду ад выступлення інтэрнацыянальнага нямецка-французскага дуэта трамбаніста Нільса Вограма і піяніста Бажана Лі, які джазавыя кампазіцыі змешвае з элементамі балканскай, класічнай, поп- і рок-музыкі, у выніку чаго творчасць музыкаў атмасферная і поўная рытму.



*Выступленне беларускага джазавага гурта «Яблычная гарбата».*

Увечары 25 чэрвеня адбудзецца апошняя з «Джазавых субот», асноўнай разынкай праграмы якой стане выступленне румынскай вакалісткі Алены Міндру. Ва ўсім свеце яе голас прызнаюць унікальным і аксамітным. Нягледзячы на маладосць спявачкі, за яе спінай больш як чатырыста канцэртных выступленняў па ўсім свеце, у тым ліку на найбуйнейшых канцэртных пляцоўках Нью-Ёрка, Амстэрдама, Парыжа, Таліна і Стакгольма. Разам з Аленай закрываць сезон «Джазавых вечароў» будуць трынаццаць музыкантаў з італьянскага джазавага аркестра «Veneto», музыку якога спакойна слухаць не атрымаецца. Пазнаёміўшыся з рэпертуарам джазавага аркестра, разумееш: падчас выступлення італьянцаў трэба рыхтавацца да запальных, энергічных танцаў. Выступленне трыа беларускага акардэаніста Анатоля Тарана, які тройчы станавіўся ўладальнікам гранд-прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і з'яўляецца стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, лаўрэатам шматлікіх міжнародных конкурсаў, будзе фінальнай кропкай на апошнім у летнім сезоне 2016 года «Джазавым вечары каля Ратушы».

Да канца «джазавага сезона» ў Мінску будзе праходзіць сэлфі-конкурс пад сімвалічнай назвай «Я ў джазе». Яго пераможцы змогуць убачыць Мінск з вышыні птушынага палёту, атрымаўшы магчымасць пракаціцца на верталёце. А ў Верхнім горадзе з'явіцца Кулінарная вуліца, якая павінна пераканаць гасцей, што вулічная ежа можа быць не толькі смачнай, але і карыснай. А для маленькіх арганізатары падрыхтавалі спецыяльны дом, дзе жывуць чараўнікі, якія падчас канцэртаў кожнаму госцю будуць прапаноўваць спецыяльныя фокусы: ператвараць малако і фрукты ў дзіўныя кактэйлі. У выніку і дзецям будзе цікава, і бацькі змогуць не спяшацца дамоў.

«Джазавыя вечары ля Ратушы» — унікальная магчымасць для жыхароў горада пазнаёміцца з творчасцю сусветна вядомых музыкантаў, для якіх джаз — лад жыцця, і пачуць кампазіцыі айчынных творцаў, якія перад тым, як стаць на прафесійнай сцэне, прайшлі вялікі насычаны шлях творчага станаўлення і прызнання не толькі ў Беларусі, але і ў замежных краінах. Летнія «Джазавыя суботы», безумоўна, спрыяюць развіццю музычнай культуры ў краіне і фарміруюць своеасаблівую пляцоўку для міжнароднага ўзаемаразумення і сяброўства паміж рознымі народамі. Сёлета колькасць і геаграфія выступоўцаў у межах «Джазавых вечароў» значна пашыралася ў параўнанні з мінулымі гадамі, што сведчыць пра цікавасць да Беларусі і яе культуры з боку замежных выступоўцаў і пра тое, што музычныя святы неабходныя беларускай публіцы.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Фінальны акорд

Закрыццё сімфанічнага сезона адзначылася яркім канцэртам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора — народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава. Вядомыя творы сусветнай класікі прагучалі са сцэны сталічнай філармоніі: ад папулярнага «Дона Жуана» Рыхарда Штрауса да рарытэтнага «*Magnificat*» Баха. Праграма выдалася па максімуме насычанай, ахапіўшы творчасць нямецкіх і аўстрыйскіх кампазітараў, прычым розных стыляў, улічваючы як барока, так і экспрэсіянізм. У гэтым творчая палітыка філармоніі — быць бліжэй да розных катэгорый слухачоў, пастаянна шукаць новае для прыцягнення прыхільнікаў класікі.

Па словах маэстра, галоўныя творы-акцэнты 74-га канцэртнага сезона — «Ікар на краі часу», «Пеця і воўк», «Карміна Бурана» і «Полацкія пісьмёны», «Боская паэма», «Новы год у Філармоніі» і джаз-сімфонія «*Ecumenica*».

Тыднем раней, 15 чэрвеня, да фіналу падышоў канцэртны сезон і ў Віцебскай абласной філармоніі — пад мелодыі маштабнага опэн-эйра. Музыка выйшла на вуліцы і стала яшчэ бліжэй. Прагучаў гала-канцэрт сімфанічнага аркестра і салістаў пад кіраўніцтвам дырыжора Уладзіміра Бяляўскага. Перад тым як пайсці на летнія вакацыі, музыканты парадавалі прыхільнікаў дзвюма лепшымі праграмамі, адна з якіх была створана разам з вакалістамі. Слухачы атрымалі асалоду ад твораў Чайкоўскага і Штрауса, Пучыні і Уэбера, саўндтрэкаў да кінафільмаў і ўрыўкаў з мюзіклаў. Той жа прынцып — музычныя творы розных эпох, шырокая панарама стыляў, а значыць, магчымасць для кожнага знайсці нешта сваё.

**Марыя ВОЙЦІК**



*Аляксандр Анісімаў.*

# Цені і адценні

## ў альтэрнатыўнай фатаграфіі Віктара Жураўкова



**Сучасныя фатографы, валодаючы нават самай простай тэхнікай, умудраюцца ствараць неверагодныя шэдэўры з прыгажосцю адценняў і інтрыгуючымі сэнсамі сюжэтаў. У Беларусі развіваецца шмат напрамкаў фотамастацтва, але менавіта альтэрнатыўнай фатаграфіяй (залатое стагоддзе якой прыйшлося на канец XIX — пачатак XX стагоддзя) займаюцца нямногія. Віктар Жураўкоў — фотамастак, вядомы беларускай публіцы па шматлікіх мастацкіх праектах, прадстаўляе новую выстаўку альтэрнатыўнага фотамастацтва ў кніжна-выставачнай прасторы «Кніжная шафа».**

Віктар Жураўкоў валодае ведамі і практычнымі навыкамі ў тэхналогіі фатаграфіі як традыцыйнай, так і альтэрнатыўнай. Ён ведае, якім было альтэрнатыўнае фотамастацтва на піку яго запатрабаванасці і як выглядае сёння. Майстар актыўна карыстаецца асабістым досведам і сінтэзуе фотаэлементы пачатку XX стагоддзя з сучаснымі тэхнікамі. Менавіта таму яго работы, заўсёды адлюстраваныя на мяжы часу, характарызуюцца арыгінальнасцю, незвычайнасцю стварэння. Віктар Жураўкоў па адукацыі хімік. Таму ў працы над фотаздымкамі яму дапамагае навуковы падыход. Патрэбнай якасці аўтар дасягае за кошт вар'іравання хімічнай апрацоўкі.

На выстаўцы дэманструюцца фотапейзажы і партрэты, выкананыя ў пікторыяльнай тэхніцы фатаграфіі. Такая тэхніка характарызуецца блізкай сувяззю фотаэлементаў і выяўленчага мастацтва. Глядзіш на работу і доўга вызначаеш: гэта твор, напісаны мастаком з натуры, ці ўсё ж фотаздымак.

Тэматычная вобразнасць і містычнае адлюстраванне прыроды для Віктара Жураўкова — традыцыйныя складнікі творчасці. Пейзажы, на якіх прадстаўлены беларускія мястэчкі, партрэты вядомых людзей, аўтар дэманструе праз містычнасць. Мастацкасцю і ўнутраным спакоем твораў ён праводзіць гледача ў свет, дзе цеснае спляценне гістарычнага, вечнага стварае атмасферу меланхоліі.

У пікторыяльнай фатаграфіі вялікае значэнне мае прастасць кампазіцыі. Тут павінны правільна суадносіцца святло, колеры, цені і адценні. Пры выкананні ўсіх патрабаванняў твор атрымаецца лёгкім, дыялагічным. Віктар



Жураўкоў імкнецца знаходзіць новыя падыходы да творчасці, захоўваючы паэтыку і гарманічнае насычэнне сюжэтаў, асабліва калі працуе над беларускімі краявідамі. Вялікую ўвагу ён надае захоўванню і дагледжанню гістарычных замкаў, што да сённяшняга дня з'яўляюцца гонарам краіны. З дапамогай розных мастацкіх тэхнік (цыянатыпія, вандэйк, тэмперапрынт) адлюстроўвае спадчыну ў розных стылістыках.

Альтэрнатыўнае фотамастацтва адрозніваецца ад лічбавага тым, што рэальнасць і празмерная дэталізацыя страчваецца дзякуючы шматлікім рукатворным працэсам. Кожны фотаздымак унікальны: ні адзін фотамастак і нават сам аўтар не зможа паўтарыць створаны сюжэт. Таму праца з альтэрнатыўнай фатаграфіяй дастаткова складаная: ад адной хвалі можа залежаць недакладнасць работы і правільнасць выканання.

Фотамастак Віктар Жураўкоў займаецца фатаграфіяй з 1982 года. За 34 гады творчай дзейнасці ён не толькі засвоіў досвед іншых фатографаў, але і распрацаваў асабістыя шляхі і канцэпцыі ў фотамастацтве. Яго работы, пачуццёвыя, прасякнутыя эмацыянальнай выразнасцю, — вынік шматгадовага імкнення ствараць новае, незвычайнае і ў той жа час традыцыйнае і блізкае. Сёння аўтар не толькі сам працуе над альтэрнатыўным фотамастацтвам, але і прапануе вучыцца ўсім жадаючым. Для зацікаўленых Віктар Жураўкоў час ад часу прапануе майстар-класы, у якіх не проста даносіць інфармацыю пра тэхнічныя і мастацкія рэчы, а паказвае дасягненні айчынных фотамайстроў.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Брэсцкі музей чыгуначнай тэхнікі прываблівае наведвальнікаў калекцыяй разнастайных экспанатаў. Замест экспазіцыйных залаў тут — чыгуначныя рэйкі і пасажырскія платформы. Большасць з прадстаўленых экспанатаў дзейнічаюць і сёння. Дастаткова часта іх выкарыстоўваюць для экскурсійных паездак і для здымкаў мастацкіх і дакументальных фільмаў.

Сёлета музею споўнілася чатырнаццаць год. Супрацоўнікі сабралі значную калекцыю ўзораў натурнай чыгуначнай тэхнікі і экспанатаў тэхнічнага абсталявання чыгуначнага транспарту. Музей знаходзіцца пад адкрытым небам, таму пытанняў з месцам размяшчэння цягнікоў не ўзнікае. Цягнікі ў экспазіцыі размеркаваныя па перыядах гісторыі. Ёсць даваенныя, ваенныя, савецкія і сучасныя. У іх можна зайсці, паглядзець абстаноўку, параўнаць стыль унутранага афармлення мінулых часоў з сучасным. Ёсць у экспазіцыі музея і калекцыя вагонаў выпуску 1903 — 1940 гадоў, якая ўражвае не толькі дарослых, але і дзяцей, якім цікава адчуць новую атмасферу.

Добра, што ў нашай краіне існуе такі музей чыгуначнай тэхнікі, бо гэта магчымасць дакрануцца да гісторыі беларускай чыгункі, адчуць яе дух і эстэтыку, паказаць нашчадкам, як адбывалася станаўленне. Вельмі прыемна бачыць, што экспанаты музея дагледжаныя і знаходзяцца ў працоўным стане.

**Алена СТОЙКА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 16.06.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1752.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2267

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686